# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С-ГАСПАДАРКІ



№ 10

ЖНІВЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ.

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 10 (16) | Жнівень | 1930 г.





## Выстаўка пакажа перавагу калектыўнай гаспадаркі.

*(Артыкул Наркамзема БССР тав. Рачыцкага).*

Кастрычнікавая рэвалюцыя зруйнавала стары аграрны лад і тым самым ачысьціла шлях для сацыялістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі і прамысловасьці савецкіх краін.

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, Савецкая Беларусь за 10 год існаваньня савецкай улады дасягнула вялізарнейшых посьпехаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

БССР, пры дапамозе Савецкага Саюзу, стаўшы на шлях індустрыялізацыі, шпаркім тэмпам зьмяняе характар народнае гаспадаркі, пераўтвараючыся з краіны аграрнай у краіну калгасна-індустрыяльную.

Прамысловасьць набывае вядучую ролю ў народнай гаспадарцы.

Вялікія дасягненьні сацыялістычнай прамысловасьці зьявіліся вынікам вялізарнага працоўнага ўздыму энтузіязму рабочае клясы, якая на працягу апошняга году барацьбу за перамогу выяўляе ў форме сацыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, як формы сапраўднай бальшавіцкай працы.

Сельская гаспадарка БССР у даваенны час вялася ў большасьці выпадкаў самымі адсталымі спосабамі. Трохпалёўка і саха асноўныя паказчыкі таго часу сялянскае гаспадаркі, але і гэтая дробная сялянская гаспадарка імпэрыялістычнай вайной, нямецкай і бела-польскай акупацыямі была разбурана. Пасеўная плошча значна скарацілася, зьменшылася колькасьць жывёлы, зьнізілася таварнасьць сельскае гаспадаркі.

І толькі з часу вызваленьня БССР ад белапольскай акупацый, з перадачай у працоўнае сялянскае карыстаньне звыш 1.800 тысяч *га* зямлі былой уласнасьці абшарнікаў, сельская гаспадарка Беларусі пачынае шпаркім тэмпам ісьці наперад.

Пасеўная плошча ўжо да 1923 году была даведзена да даваенных памераў, а ў 1930 годзе яна перасягнула на 58 проц. пасеўную плошчу 1916 г. Павялічваецца колькасьць жывёлы, расьце ўраджайнасьць.

Але-ж ня гледзячы на рост пасеўнай плошчы і павялічэньне валавой прадукцыі, таварнасьць с.-г. заставалася нізкай. Прычына гэтаму—пераважнасьць дробных сялянскіх гаспадарак, якія працягвалі драбіцца і ператварацца ў зусім дробныя, карлікавыя гаспадаркі. Драбімасьці сельскае гаспадаркі і нават зьніжэньню таварнасьці яе спрыяла былое кіраўніцтва зямельных органаў БССР. „Прышчэпаўшчына“, якая імкнулася да хутарызацыі сельскае гаспадаркі, да пераводу яе на капіталістычны шлях разьвіцьця, з якой КП(б)Б правяла рашучую бязьлітасную барацьбу, вяла к узмацненьню кулацкай верхавіны вёскі і да абядненьня і распыленьня гаспадарак асноўных мас сялянства.

КП(б)Б, дзякуючы цьвёрдаму і няўхільнаму правядзеньню генэральнай лініі партыі, дзякуючы цьвёрдай барацьбе на 2 франты—з правымі і „левымі“ апартуністымі і прымірэнцтвам да іх—забясьпечыць сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі. Толькі ў выніку шпаркага тэмпу разьвіцьця індустрыялізацыі і павялічэньня кіруючай ролі пралетарыяту і замацаваньня вытворчай змычкі яго з працоўнымі масамі сялянства і бязьлітаснай барацьбы з ухіламі, КП(б)Б дабілася пералому і значных посьпехаў у разьвіцьці сельскае гаспадаркі БССР па сацыялістычнаму шляху.

На працягу апошніх год у справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас сялянства маюцца значныя дасягненьні. Аграмаджаны сэктар (калгасы і савгасы) за апошнія гады павялічыўся больш, чым у тры разы і ўдзельная вага яго па засеву ў параўнаньні з індывідуальным сэктарам узрасла з 2-х проц. у 1928 г. да 17 проц. увесну 1930 году.

Але ня толькі павялічваецца колькасьць калгасаў і савгасаў, колькасьць аб'яднаных у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Яшчэ больш значна замацоўваюцца савгасы і калгасы гаспадарча, а гэта асноўны паказчык правільнай лініі перабудовы сельскай гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху. Сярэдняя плошча калгаса з году ў-год павялічваецца, і ўвесну 1930 г. дасягае да 397 *га*. З году-ў-год у калгасах і савгасах павялічваецца ўраджайнасьць, валавая прадукцыя і таварнасьць. На палёх калгасаў і савгасаў працуе 600 трактараў, а ў 1930-31 годзе іх будзе каля 3.000.

Усё гэта склала належную базу і для рэканструкцыі жывёлагадоўлі. Ужо цяпер прыступлена да арганізацыі і будаўніцтва спэцыялізаваных мяса-малочных фабрык.

Посьпехі сацыялістычнае рэканструкцыі с.-г. ушчэнт апракідваюць усе дробна-буржуазныя тэорыі нэонароднікаў і нацыянал-дэмакратаў нібы гістарычна склаўшыяся ўмовы разьвіцьця сельскае гаспадаркі Беларусі забясьпечваюць разьвіцьцё яе праз хутарскую сыстэму землярobства. Аб гэтым яскрава падкрэсьліў XIII Зьезд КП(б)Б у наступнай сваёй пастанове:

> *„Гэтым самым ушчэнт апракідваецца ўся дробна-буржуазная тэорыя нэонароднікаў і нацыянал-дэмакратаў, якія пад прыкрыцьцем нібы-та „гістарычна склаўшыхся ўмоў разьвіцьця сельскай гаспадаркі Беларусі“, адстайвалі кулацка-хутарскую палітыку, накіроўваючы сваю дзейнасьць на разьвіцьцё сельскае гаспадаркі па капіталістычнаму шляху. Жыцьцё паказала, што самі бядняцка-серадняцкія масы сялянства, пад кіраўніцтвам КП(б)Б апракінулі ўсе гэтыя „навуковыя“ сьцьвярджэньні і сталі на правільны шлях ператварэньня сельскае гаспадаркі на базе калектывізацыі, дасягнуўшы на гэтым шляху значных посьпехаў“.*

Аб пераважнасьці сацыялістычнае рэканструкцыі сельскай гаспадаркі яшчэ XIII Зьезд КП(б)Б сказаў, што „толькі калектывізацыя і сацыялістычная рэканструкцыя зьяўляецца рашучым і асноўным шляхам магутнага ўздыму сельскае гаспадаркі“. З гэтае прычыны неабходна з усёй сілай і энэргіяй праводзіць работу па ўзмацненьню і ўзбуйненьню існуючых савгасаў і калгасаў і ў далейшым значна пашырыць тэмп калектывізацыі сельскае гаспадаркі і будаўніцтва савгасаў, зварочваючы асаблівую ўвагу на ўтварэньне буйных калгасаў.

У справе будаўніцтва сацыялістычнай прамысловасьці і сельскае гаспадаркі пралетарыят у саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства дабіўся вялізарнейшых посьпехаў. Каб паказаць гэтыя вялізарныя і шпаркія тэмпы разьвіцьця і сацыялістычнай рэканструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, дасягнутыя посьпехі ў калгасным і сав-

**Лішкі таварнага хлеба дзяржаве**



Чырвоны абоз з новым ураджаем (калгас „Чырвоная Краіна“, Гомельшчына).

гасным будаўніцтве, перавагі буйнага калектыўнага земляробства, вынікі правядзеньня дырэктыў партыі па нацыяльнай палітыцы, вынікі культурнага будаўніцтва—урадам БССР вырашана было арганізаваць першую ўсебеларускую выстаўку сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, пастанавіўшы перад выстаўкай наступныя задачы:

1. Адлюстраваць сапраўдны малюнак дасягнутых посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва Савецкай Беларусі, пераважна па галоўных галінах народнае гаспадаркі—прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

2. Паказаць працоўным сапраўдны шлях пабудовы сацыялізму праз ажыцьцяўленьне рашэньняў партыі.

3. Паказаць перавагу калектыўнага жыцьця і творчасьці перад індывідуальным.

4. Паказаць шырокім працоўным масам, як практычна ажыцьцявіць дасягненьні навукі і тэхнікі.

5. Узмацніць энтузіязм працоўных па пабудове сацыялізму і ажыцьцяўленьні „пяцігодкі ў чатыры гады“.

6. Яшчэ больш замацаваць саюз рабочае клясы з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства.

Пасьпяхова ажыцьцявіць задачы, якія стаяць перад выстаўкай, можна толькі тады, калі выстаўку наведаюць сотні тысяч працоўных, асабліва бядняцка-серадняцкае сялянства. Таму перад раённымі, партыйнымі, савецкімі і грамадзкімі арганізацыямі стаіць ня менш важная задача—арганізавана і плянамерна накіраваць сотні тысяч экскурсантаў на выстаўку.

Ня трэба забываць і таго, што кулацтва яшчэ не дабіта і што яно на ўсякае савецкае мерапрыемства будзе аказваць шалёнае супраціўленьне да таго часу, пакуль канчаткова ня будзе ліквідавана на базе суцэльнай калектывізацыі, як кляса. Зразумела, што з часу адчыненьня выстаўкі і арганізацыі пасылкі экскурсантаў, кулак узмоцніць агітацыю супроць паездкі бядняцка-серадняцкага сялянства для агляду выстаўкі. І тут задача сельсаветаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці вёскі—пільна сачыць за паводзінамі кулацтва і сваячасова даваць рашучы адпор на ўсе кулацкія вылазкі, у якой-бы яны ні былі форме. Толькі такім шляхам мы створым неабходныя ўмовы для шырокага наведваньня працоўнымі першай усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці і пакажам ім тыя вялізарнейшыя дасягненьні, якія здабыты рабочай клясай і працоўным сялянствам на працягу дзесяцігодзьдзя існаваньня Савецкай Беларусі, а таксама пакажам ім відавочна шляхі далейшага будаўніцтва сацыялізму.

Выстаўка адчыняецца ў той момант, калі XVI партзьезд даў рашучую дырэктыву разгарнуць сацыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту будаўніцтва сацыялізму. У сувязі з гэтым выстаўка павінна адлюстраваць усе рашэньні XVI партзьезду і выклікаць сярод пралетарыяту і бядняцка-серадняцкага сялянства яшчэ большы ўздым і энтузіязм па разгортваньню калектывізацыі сельскае гаспадаркі, будаўніцтву сацыялістычнае культуры і быту, узмацненьню кіруючай ролі пралетарыяту і вытворчай змычкі яго з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства і выкарчоўваньне капіталізму ў горадзе і вёсцы.

Толькі гэтымі шляхамі пралетарыят, у саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, пад кіраўніцтвам сталёвай камуністычнай партыі прыдзе да перамогі над капіталізмам і пабудуе сацыялістычную грамаду.

**„... калі мы будзем сядзець пастарому ў дробных гаспадарках, хаця і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усёроўна пагражае немінучая гібель... Толькі пры дапамозе агульнае, таварыскае працы магчыма выйсьці з тупіку...“**

**ЛЕНІН.**

# Выстаўка—справа працоўных і для працоўных.

1-ая Ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, ёсьць вынік упартай працы пралетарыяту БССР разам з асноўнымі масамі сялянства пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Пры дапамозе ўсяго пралетарыяту СССР. Посьпехі будаўніцтва сацыялізму ў аднэй шостай частцы зямной кулі СССР, куды ўваходзіць і шматнацыянальная БССР, дасягнула толькі дзякуючы правільнаму кіраўніцтву Ленінскай камуністычнай партыі.

Дзесяць год упартай працы пралетарыяту БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б на гаспадарчым і культурным фронце засталіся ззаду.

Ад руін, развалін, пажарышч, голаду, холаду, магілак лепшых барацьбітоў за справу рабочае клясы, якія пакінулі нам у спадчыну белапольскія акупанты,—да 1 Усебеларускай выстаўкі сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Вось пройдзены шлях пралетарыяту на гаспадарчым і культурным будаўніцтве БССР за 10 год. На выстаўцы ўся БССР. Тут праца мільёнаў, тут маячыць дух У. Леніна, тут кавалак сацыялізму.

Як мала—толькі дзесяць год. А як шмат зроблена! Ад сахі—да тысяч трактараў, ад цапа да складанай малатарні з электраэнэргіяй, ад секача—да фабрыкі сіласарэзак, ад саматужнай прамысловасьці—да буйнай рэспубліканскай. Ад дробнай сялянскай малатаварнай гаспадаркі—да гіганта саўгасу і калгасу, з машыннай апрацоўкай глебы, з мэханізаванымі скотнымі дварамі, аж да мэханічнай дойкі кароў уключна, з сілоснай вежай. Ад 40-пудовага—да 150-пудовага ўраджаю з 1 гектара азімых і яравых збожжавых культур, ад 3 палёўкі да шматпалёўкі з кармавымі травамі, караньплодамі, тэхкультурамі, з фабрыкамі і заводамі па тэхпераапрацоўцы і г. д., і г. д. Вось тыя дасягненьні за 10 год, якія паказаны на выстаўцы.

У павільёне рэспубліканскай прамысловасьці адбіта ўся наша буйная прамысловасьць—машынабудаўнічая, папяровая, шкляная, скураная, Асінбуд, тарфяная ды іншая. Запалковая і ўся лясная—ў павільёне



Агульны выгляд павільёнаў жывёлагадоўлі.

Лесбелу, будаўнічыя праектаваньні і матар'ялы, устойлівасьць апошніх, тыпы розных пабудоў і г. д.—паказаны ў павільёне Дзяржбуду. Саматужная і мясцовая прамысловасьць займае вялікі паасобны

павільён, дзе паказаны вырабы розных арцеляй з усіх куткоў БССР сампрамкаапэрацыі і прадукцыя мясцовай прамысловасьці, якая працуе на сваёй сыравіне.

Тут, у 4 павільёнах адбіта такім чынам, уся наша прамысловасьць, якая вырастае з кожным годам у буйную прамысловасьць, уцягваючы ў сябе ўсё больш і больш пралетарыяту, індустрыялізуючы краіну і падводзячы пэўную базу для пабудовы буйных сацыялістычных сельскіх гаспадарак на новых падставах высокай тэхнікі, пры ўжываньні складаных с.-г. машын і прылад з максымальнай вытворчасьцю працы і атрыманьнем вялікай колькасьці высокаякасных прадуктаў. Індустрыялізацыя краіны ў галоўнай сваёй частцы і паказана ў гэтых 4 павільёнах, зьмест якіх, па сутнасьці, і зьяўляецца асновай усіх эканамічных асноў.

Прымаючы пад увагу, што наша прамысловасьць на Беларусі пачала разьвівацца толькі з пачатку Кастрычнікавае рэвалюцыі і што асноўную і галоўную ролю для нас адыгрывае цяжкая Ўсесаюзная прамысловасьць, апошняя і прадстаўлена ў павільёне рэспубліканскае прамысловасьці наступнымі аб'яднаньнямі. Машаб'яднаньнем, сельмашаб'яднаньнем, Хэмаб'яднаньнем і Торфааб'яднаньнем. Электроаб'яднаньне „ВЭО“ ўдзельнічае сваімі экспонатамі ў павільёне мэханізацыі і электрыфікацыі сельскае гаспадаркі.

Кастрычнікавыя ўстоі на эканамічным фронце тым і моцны, што шпарка расьце і разгортваецца індустрыяльнае будаўніцтва, а на базе індустрыялізацыі краіны шпарка разгортваецца буйная сельская гаспадарка, уся эканоміка і арганізацыя якіх зьмешчана ў галоўным павільёне. У гэтым 2-х павярховым будынку ў графічных, макетных, мадэльных і часткай натуральных экспонатах прадстаўлен абагулены сэктар сельскай гаспадаркі саўгасы, калгасы і с.-г. каапэратыўныя аб'яднаньні. Побач эканоміка і арганізацыя прамысловасьці—гэта 2 паверх будынку, а першы заняты галоўным чынам аддзелам прыроды як глебы, фаўна, флёра, клімат, мінэральныя выкапні і г. д.

Агледзеўшы ўсё гэта, прайшоўшы праз пакоі асьветы, якая атрымала росквіт толькі пры Савецкай уладзе і, агледзіўшы партгабінэт, гледачу прадстаўляецца паўнейшая мажлівасьць убачыць, на якіх зьнішчэньнях гаспадаркі і культуры, пакінутых нам у спадчыну ад абшарнікаў і капіталістых у 1920 годзе, прышлося будаваць нам сацыялізм—гэта куток „Спадчына вайны і абароны краіны“.

Уражаньне гледача завяршае куток „Партыя і Ленін у сацыялістычным будаўніцтве“, дзе адбіта кіруючая роля Ленінскай камуністычнай партыі як на фронце заваёў Кастрычніка і ўстанаўленьня Савецкай улады, гэтак і ў далейшым шпаркім разьвіцьці сацыялізму.

Зараз кожны, папаўшы на выстаўку, зразумее мэты і задачы выстаўкі: 1) паказаць кіруючую ролю кампартыі ў пабудове сацыялізму, 2) вядучую ролю сацыялістычнай прамысловасьці ў перабудове ўсяе народнае гаспадарцы БССР і 3) ролю прамысловасьці ў сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі, да якой глядач непасрэдна і пераходзіць. І тут нельга не заўважыць, што БССР, з старонкі аграрнай—старонкі хутароў, балот, пяскоў і вузенькіх як нітка палосак,—становіцца аграрна-індустрыяльнай краінай, каб потым хутка стаць індустрыяльна-аграрнай.

Увесь аддзел Земляробства вельмі багата прадстаўлен у сваіх жывых натуральных дыяграмах, якімі зьяўляюцца: азімыя, яравыя і кармавыя культуры, колекцыйна-насеннага гадавальніка, інтродукцыя,

мульчыраваньне, 18 тыпаў шматпалёвых севазваротаў прыстасаваных да розных гаспадарчых раёнаў БССР, саўгасных і калгасных гаспадарак, дзялянкі са штучным угнаеньнем пад яравыя культуры на прэснай глебе і г. д. У саміх севазваротах, прайсьці міма такіх фактаў, як паўнейшае пасьпяховае разьвіцьцё цукровых буракоў, сілосных культур (кукуруза), караньплодаў, лёну, пажніўных культур і г. д.—нельга, бо яны ўводзяць новыя элемэнты індустрыяльнага напрамку нашай сельскай гаспадаркі, чаго да Кастрычніка мы ня мелі.

У павільёне рольніцтва—поўнасьцю адбіта палявая гаспадарка саўгасаў, калгасаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі БССР. Тут у зярне і снапох азімых і яравых культур за 1929 і 1930 г., у прадстаўленых караньклубняплодах, пасяўных травах і інш. культурах палявога кліна, паказаны нашы дасягненьні за 10 год сацыялістычнага будаўніцтва. Суседні павільён земляробства адбівае нашу дасьлед-



Мэханічнае даеньне кароў.

чую справу па БССР у галіне паляводзтва, экспонатамі ў якім зьяўляюцца дасьледчыя станцыі і палі, як БССР, так і суседнія з намі Новазыбкаўскія і інш. Гароднія і новыя культуры малююць БССР як старонку з бязьмежнымі мажлівасьцямі для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Тут і жытня-пшанічныя гібрыды, азімыя ячмені, да 80 гатункаў пшаніц, сотні гатункаў аўсоў, траў, гародніх культур і г. д. І ўсё гэтае мае такі дасканалы рост і выгляд, што вочы разьбягаюцца.

Садоўніцтва, якому ў БССР належыць вялікая будучыня, дзякуючы спрыяючым глебавым і кліматычным умовам, прадстаўлена натуральным садам у 6 *га*. Садовымі севазваротамі ў ім, ягаднікамі, пчоламі і меданоснымі расьлінамі і, усім тым, чым можна рацыянальна

і з вялікім прыбыткам скарыстаць зямлю, пакуль сад малады, дабіваючыся ўзаемнай карысьці як для саду, гэтак і для разьмешчаных у ім расьлін. Усе няжывыя экспонаты садоўніцтва і гародніцтва і прадукцыя ад іх разьмешчаны ў спэцыяльным павільёне. Істужка лекавых расьлін Магілеўскай Дасьледчай станцыі, як-бы зьвязвае гэты павільён з заводам тэхпераапрацоўкі садавіны і гародніны, які абсталяваны па навейшаму спосабу і на хаду паказваецца экскурсанту з выпушчанай прадукцыяй.

У павільёне тэхкультур (лён, каноплі) паказана наша сыравіна прадзільных культур, плошча пад якімі штогод пашыраецца і колькасна і якасна. Магутнасьць мэханізацыі і электрафікацыі сельскае гаспадаркі,—



Павільён друку.

гэтага вялізарнейшага стымулу ў арганізацыі абагуленнай гаспадаркі,—паказваецца ў ня менш магутным будынку, у якім гэты аддзел зьмешчан. Тут, сіла машыны экскурсанту-індывідуальніку выразна падкрэсьлівае яго нікчэмнасьць і абсалютную слабасьць перад калектывам у заваёве сілы прыроды, у пабудове новай сацыялістычнай грамады. Пабачыўшы працу трактарнай калёны, з прычапнымі машынамі і прыладамі да іх у выкананьні розных с.-г. прац, дзе чалавек зьяўляецца толькі разумным кіраўнікам, а не фізычнай сілай, якой ён зьяўляецца ў аднаасобавай гаспадарцы, бедняку і серадняку вёскі адразу яскрава становіцца, што толькі і мажліва самае шырокае ўжываньне навейшай тэхнікі і самых складных машын і прылад, скарыстаўшы для іх працу электроэнэргіі,—гэта пры сацыялістычным землеробстве.

Калі-ж перакінуцца побач, у аддзел жывёлагадоўлі, дзе таксама прадстаўлена ўся БССР і пераважна саўгасна-калгасная БССР, якой яна стала нядаўна, то без захапленьня нельга прайсьці каля гэтых звышпрыгожых і моцных коняй Гомельскага Дзяржконзаводу, коняй Дзяржстаень саўгасаў і калгасаў. Жывёлы аднаасабовых гаспадарак

вельмі мала. На сёняшні дзень усё лепшае ва ўсіх галінах сельскае гаспадаркі знаходзіцца ўжо ў абагуленым сэктары.

Ды і як ня цешыцца пралетарскаму воку, калі ў чацьвярых выводзяць махіну-жарабца, якога яны самі выгадавалі і самі на ім працуюць. А колькі тысяч такіх коняй гадуецца ў абагуленым сэктары! А колькі будзе яшчэ выгадавана, у гэта вераць калгасьнікі і саўгасьнікі, і ў гэта верыць увесь пралетарыят БССР і СССР.

А заглянуўшы ў кароўнік хіба захочацца выйсьці адтуль, калі стаіць дзьве шарэнгі чырвоных беларускіх кароў, якія сапраўды ствараць рэвалюцыю ў разьвядзеньні буйнай рагатай жывёлы, бо зьяўляюцца мясцовай жывёлай, якая выведзена ва ўмовах БССР, прызвычаілася к нашым кліматычным умовам, устойлівая, высокапрадукцыйная і добра аплачвае кармы. Стаяць яны ў мэханізаваным скотным дварэ, дояцца мэханічнай электродаілкай, пояцца з аўтаматычных паілак, кармы падвозяцца мэханізавана па падвяснoй дарозе, такжа вывозіцца і гной з хлява. Тут да мінімуму скарочана рабочая людзкая сіла, якую можна скарыстаць для другой працы ў гаспадарцы.



Лясны павільён.

У суседнім павільёне сьвіньні. Якая прыгожасьць! Жывая вага некаторых ад 20 да 30 пудоў. Шмат маладняку. Ёсьць парасяты, якія на выстаўцы радзіліся. Увесь племматар'ял выключна з саўгасаў і калгасаў. Усе станкі запоўнены белымі ангельскімі сьвіньнямі. Гэта наш асноўны матар'ял для разьвіцьця сьвінагадоўлі ў БССР, гэта ўсё здабыта працоўнымі БССР выключна пасьля Кастрычніка. Наша база, на якой будзе пабудавана задавальненьне ўнутранага рынку сьвіннoй прадукцыяй і на якой разгорнецца бэконная прамысловасьць, досыць моцная.

Агледзіць дасканала ўвесь аддзел жывёлагадоўлі за 2—3 гадзіны нельга. Тут і авечкі, козы, трусы, птушкі, інкубатары, масла-завод комбікормачнае аддзяленьне, у якім нарыхтоўваюцца ўсе канцэнтрава-

ныя кармы для жывёлы і кораньклубняплоды, павільён няжывых экспонатаў аддзелу жывёлагадоўлі, сілосная вежа, гноясхоў, плошча па кармаздабываньню і г. д. У іншых павільёнах гледачы спыняюцца: на экспонатах Белдзяржкіно (павільён Белдзяржкіно), у павільёне Друку, Каапэрацыі, Наркамгандлю, Працы і быту, Камунальнае гаспадаркі і Шляхоў зносін, Чырвонага крыжу, Белмэдгандлю, МОПР'у, Сувязі і г. д.

Але ня толькі ўсё цікавае захоплівае гледача ў павільёнах. Сама тэрыторыя ўся ў кветках, па галоўнай алеі фантан, сонечны гадзіньнік, каляндар з кветак, флёрыстычная карта БССР і іншае. Кругом лавачкі, дзе можна адпачыць. Праз дарогу лясны павільён з усеахапляючым аб'ёмам лясной гаспадаркі і дзікіх зьвяроў—жыхароў нашых беларускіх лясоў.

Ня прыходзіцца і гаварыць аб цікавасьці, якую прадстаўляе балотная станцыя са сваімі экспонатамі, як у натуры, гэтак і ў павільёне з вынікамі ўраджаяў—да 700 пудоў канюшыны з 1 гектара за год. Рыбная гаспадарка і яе павільён справа на Беларусі зусім новая, але маючая вялікую будучыню і дасягненьні з часу Кастрычнікавае рэвалюцыі.

Усё гэта прадстаўлена з такім разьлікам, каб магло зьявіцца люстэркам для працоўных, каб экскурсант прыехаўшы дадому мог усё ўжыць у калгаснай і саўгаснай гаспадарцы. Варта толькі ўзяць запісную кніжку і аловак і запісаць усё асноўнае, бо яно падаецца ў канкрэтнай форме, як, напрыклад: запісаць разьмеры кармушак, стойл, хлявоў, гатункі жывёлы, насеньня, тыпы севазваротаў, машыны, прылады і пазнаёміцца, як з усім абыходзіцца, даглядаць, карыстацца і прыехаўшы дадому—ужыць у гаспадарцы. Толькі ворагі індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны могуць разважаць інакш.

**П. Сяргейчык.**

---

**Рашаючае значэньне для работы партыі ў даны момант мае задача далейшага ўцягненьня ў калгасы бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак на добраахвотных началах, праблема арганізацыі працы ў калгасах, разьмеркаваньне ўраджаю ўнутры калгасу, праблемы падрыхтоўкі калгасных кадраў, уздым культурнага ўзроўню калгасных мас, перамаганьне дробнабуржуазных хістаньняў унутры калгасаў, усямернае ўмацаваньне калгасаў, як апорных пунктаў сацыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы.**

(З РЭЗАЛЮЦЫІ XVI ЗЬЕЗДУ УсеКП(б)).

---

# ЗА САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ ЖЫВЕЛАГАДОЎЛЮ

## Вопыт арганізацыі малочнага калгасу.

*(Калгас імя газэты „Зьвязда“, Мазыршчына).*

Вырашыць праблему жывёлагадоўлі немагчыма без вырашэньня кармавой праблемы. Вырашыць-жа кармавую праблему можна толькі на аснове сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Толькі падвёўшы моцную кармавую базу пад наша жывёлаводзтва, мы здолеем забясьпечыць масавую павялічаную вытворчасьць прадуктаў жывёлаводзтва і, ня толькі паралізаваць вынікі кулацкага шкодніцтва за мінулую зіму па зьмяншэньню колькасьці жывёлы, але і хуткім тэмпам павесьці наша жывёлаводзтва наперад—ад таго ўзроўню, на якім яно знаходзілася ў 1928-29 годзе.

Толькі пачаўшы *новую эру* ў справе кармленьня жывёлы, у справе скарыстаньня расьліннага сырцу для перапрацоўкі яго ў прадукты жывёлаводзтва (як аб гэтым піша праф. Е. Ліскун у „Соц. Земл.“ за 12 чэрвеня), мы здолеем забясьпечыць атрыманьне падвоенай і патроенай прадукцыі малака і мяса ў параўнаньні з тым, што мы мелі да гэтага часу.

Гэтыя ісьціны зараз прыходзіцца даказваць у практычнай упартай рабоце на палетках саўгасаў і калгасаў. І калі ў асноўных зернавых раёнах Савецкага Саюзу посьпех калектывізацыі будзе апрадзяляцца пасьпяховасьцю вырашэньня зернавой проблемы, то ў БССР посьпех калгаснага будаўніцтва будзе залежаць у першую чаргу ад таго, наколькі пасьпяхова існуючымі ўжо калгасамі будзе вырашана кармавая праблема, а праз яе—праблема жывёлаводзтва.

Мы каротка застановімся, як вырашыў кармавую праблему калгас імя газэты „Зьвязда“.

Калгас арганізаваўся ў канцы студзеня 1930 г. з 56 гаспадарак, з іх 28 батрацка-бядняцкіх. З 276 душ у калгасе 135 працаздольных у рабочым узьросьце. У мінулым годзе гэтыя аб'яднаныя ў калгасе гаспадаркі засявалі 212 *га* яравых пасеваў, у гэтым-жа годзе, на 11 чэрвеня, яны ўжо занялі пасевамі 240 *га*, раскарчавалі 10 *га* хмызьняку для пасеву проса, падрыхтавалі глебу для пасеву 50 *га* грэчкі і ўзаралі ўвесь папар. Прычым папар у калгасе ня толькі быў узараны ўжо ў першай палове мая, але і ўвесь засяваецца кармавымі культурамі (вікай, кіяхамі), у выніку чаго плошча яравога кліну ў калгасе будзе даведзена да 363 *га*, або на 70 проц. больш, як у мінулым годзе.

Калгас „Зьвязда“ ня толькі праводзіць пашырэньне яравога кліну, але і ажыцьцяўляе на сваіх палетках вялізарную культурную рэвалюцыю.

Пры папярэднім зямляўпарадкаваньні калгас атрымаў 547 *га* ўдобнай пахаці і 87 *га* пяскоў.

На ўдобных землях калгас уводзіць наступны *інтэнсыўны* дзевяціпалёвы *кармавы севазварот*: 1) папар-вікавы, 2) жыта-азімае па гнаі з падсевам сэрадэлі, 3) караньплоды, 4) авёс з падсевам канюшыны і цімафейкі, 5) канюшына 1-га году, 6) канюшына 2-га году, 7) штучны выган, 8) бульба, 9) сіласныя культуры—кіяхі, сланэчнік. На пясча-

ных-жа землях уводзіцца 4-палёвы' *экстэнсыўны крупяны* севазварот: 1) лубін на насеньне, 2) лубін на зялёнае ўгнаеньне, 3) жыта азімае, 4) грэчка.

Аб тым, якія *якасныя* зьмены адбыліся на калгасных палетках, паказвае наступная параўнаўчая табліца:

| Назва паказчыкаў | Па Нараўлянскаму раёну (1929 г.) | | У калгасе імя „Зьвязды" (1930 г.) | |
|---|---|---|---|---|
| | У *га* | У %% | У *га* | У %% |
| 1. Усяго пахаці . . . . . . . | 42.314 | — | 634 | — |
| 2. Усяго пасеваў. . . . . . . | 25.170 | 100 | 518 | 100 |
| 3. Зернавых пасеваў . . . . . . | 21.407 | 85,1 | 300 | 58,0 |
| У тым ліку: | | | | |
| а) жыта . . . . . . . . | 11.697 | 46,2 | 155 | 30,0 |
| б) авёс . . . . . . . . | 2.316 | 9,2 | 75 | 14,5 |
| в) грэчка . . . . . . . | 5.175 | 20,6 | 50 | 9,7 |
| г) проса. . . . . . . . | 938 | 3,7 | 10 | 1,94 |
| д) віка на зярно . . . . . | 20 | 0,08 | 10 | 1,94 |
| 4. Бульба . . . . . . . . | 2.617 | 10,4 | 65 | 12,6 |
| 5. Караньплоды . . . . . . . | 8 | 0,03 | 25 | 4,9 |
| 6. Пасеўныя травы . . . . . . | 134 | 0,55 | 53 | 10,4 |
| 7. Кіяхі . . . . . . . . | — | — | 75 | 14,5 |
| 8. Скарыстаньне пахаці пасевамі ў %% . | — | 59,5 | — | 82,0 |

Ужо першая калгасная вясна павысіла інтэнсыўнасьць скарыстаньня пахаці з 59,5 проц. да 82,0 проц. Акрамя гэтага, яна ўнясла радыкальныя зьмены ў прапорцыю культур, надта скараціўшы процант зернавых пасеваў (з 85,1 проц. да 58,0 проц.) і моцна павялічыўшы ўдзельную вагу пасеўных траў (з 0,55 проц. да 10,4 проц.) і прапашных культур (з 10,43 проц. да 32,0).

Такі-ж малюнак атрымоўваецца, калі мы параўнаем калгасныя пасевы з пасевамі за 1929 год аб'яднаных ім гаспадарак. Так, калі ў мінулым годзе бульбы было пасеяна 35—40 *га*, дык у гэтым годзе ўжо засеяна ня менш 65 *га*. Калі ў мінулым годзе было пасеяна ўсяго 8 *га* канюшыны, дык у гэтым годзе канюшыны і цімафейкі пасеяна 85 *га*. Калі ў мінулым годзе вікі было пасеяна 10 *га*, дык калгасам засеяна 55 *га*. У мінулым годзе караньплоды высяваліся толькі на спробу, сілосныя-ж культуры зусім не высяваліся, а ў гэтым годзе калгас будзе мець 25 *га* караньплодаў і 75 *га* кіяхоў. У гэтым годзе ўсё поле калгасам засеяна гатунковым насеньнем „Победа", якое на 100 % адсартавана на трыеры і на 95 проц. пратручана фармалінам. У мінулыя гады аграномы толькі закладвалі вопыты з мінэральнымі ўгна-

еньнямі (і то толькі ў аднэй гаспадарцы), і толькі яшчэ займаліся прапагандай аб карысьці попелу, а ў гэтым годзе пад яравыя пасевы калгасаў гэтай вясной уносіцца 69 тон мінэральных угнаеньняў і 5 тон попелу.

Усё гэта ўносіць радыкальныя зьмены ў кармавы балянс калгаснай вёскі. Так, калі ў мінулыя годы пераважным кармавым сродкам для малочнай жывёлы была саломеная сечка (на якую досыць часта сяляне рэзалі стрэхі), дык у гэтым годзе калгас мяркуе засіласаваць 700 тон



Павільён жывёлагадоўлі.

сакавітых кармоў і мець 300 тон кармавых запасаў кораньплодаў бульбы і 270 тон вікавага сена і яравой саломы. Гэта дае магчымасьць калгасу трымаць зімою 250 малочных кароў і даваць ім на працягу ўсяго стойлавага пэрыоду па 20 кгр. сакавітых малакагонных і па 5 кгр. грубых спажыўных кармоў. Пры правільнай арганізацыі снабжэньня калгасу канцэнтраванымі кармамі мы стаім перад рэальнай пэрспэктывай ператварэньня гэтага калгасу ў сапраўды малочную гаспадарку.

Трэба адзначыць, што ў справе арганізацыі малочнай гаспадаркі калгас ужо мае значнае дасягненьне. У гэты час у калгасе маецца 150 таварных малочных кароў.

За 3 месяцы ў малочнай гаспадарцы калгасу адбыліся наступныя зрухі:

| | на 10-III-30 г. | на 10-VI-30 г. |
|---|---|---|
| Дойных кароў | 25 шт. | 115 шт. |
| Сутачны ўдой стада | 60 літ. | 710 літ. |
| Сярэдн. удой 1 каровы | 2,4 „ | 6,2 „ |
| Здавалася малака ў ЦРК | 18 „ | 460 „ |
| Здавалася сьлівак у ЦРК | — | 36 „ |
| Таварнасьць малака | 30% | 65% |
| Таварнасьць малочн. прадуктаў | 30% | 90% |

Малочныя прадукты, якіх штодзенна калгас зараз здае на 100 руб., зьяўляюцца асноўнай крыніцай грашовых прыбыткаў і дазваляюць калгасу акуратна выплачваць калгасьнікам 50% іх штомесячнай выработкі.

Зараз калгас мае 85 цялят. Калі яго пазбавіць ад неабходнасьці вырасьліваньня гэтых цялят, то ад гэтага, па-першае, павялічыцца таварнасьць малака, а па-другое — будуць зьберажаны кармы для малочнага стада.

Свой першы бальшавіцкі экзамен — вясеньнюю сяўбу — калгас імя „Зьвязды“ вытрымаў з посьпехам.

Наперадзе яшчэ доўгая ўпартая і напружаная барацьба за новы тып гаспадаркі, за новую арганізацыю працы, і новую, больш высокую яе вытворчасьць.

Уборачная, асеньняя пасеўная і зяблявая кампаніі нясуць калгасу яшчэ большую рабочую напружанасьць, чым вясеньняя пасеўная кампанія. У надыходзячую ўборачную кампанію калгасу трэба будзе: а) сабраць сілосных культур (кіяхі, бацьвіньне бульбы і кораньплодаў) з плошчы ў 135 *га* і засіласаваць ня менш, як 700 тон зялёнай масы; б) сабраць бульбы і кораньплодаў — 90 *га* і скласьці ў бурты 1.000 тон ураджаю; в) сабраць зернавых—300 *га*, у 700 тон ураджаю; г) сабраць 500 тон вікавага і лугавога сена з плошчы ў 245 *га*.

Усяго калгасу трэба будзе ахапіць ва ўборачнай кампаніі 770 *га* плошчы і сабраць 2.900 тон ураджаю.

Азімым-жа жытам калгас мяркуе засеяць 120 *га*, пад якое мяркуецца вывезьці каля 200 тон гною і 30 тон мінэральных угнаеньняў. Акрамя таго, калгас мяркуе правесьці раньняе зяблевае ворыва — каля 700 *га*.

Няма ніякіх сумненьняў у тым, што калгас „Зьвязда“ справіцца з пастаўленай перад сабою задачай, стане на моцныя ногі інтэнсыўнай малочнай гаспадаркі і тым будзе даказана некалгаснай частцы вёскі, што *„калгас зьяўляецца адзіным сродкам выбаўленьня сялян ад беднасьці“* (Сталін).

Нядарма калгас перайшоў на ўдарныя мэтады працы і сустракае ўборачна-асеньнюю кампанію лёзунгамі: „Ніводнага снопу ўраджаю, які ня быў-бы абмалочан зараз-жа пасьля ўборкі“. „Ніводнага гектару пахаці, які-б ня быў узоран на зяб на працягу жніўня—верасьня месяцаў“.

Аграном **Маркаў.**

---

# Ня пусьцім пошасныя хваробы ў калектыўныя хлявы.

## Калгасы павінны быць узорнымі гаспадаркамі ў вэт-санітарных адносінах.

Нашы савецкія і калектыўныя гаспадаркі павінны быць ўзорнымі ў вэтэрынарна-санітарных адносінах і ў барацьбе з пошасьцямі жывёлы. Добрае вэтсанітарнае становішча саўгасаў і калгасаў складаецца з належнай арганізацыі аховы здароўя жывёлы як у сэнсе папярэджаньня заразьлізых хвароб, так і барацьбы з хваробамі, што ўжо зьявіліся.

## Што трэба рабіць для аховы здароўя жывёлы.

Пры куплі жывёлы адкуль-небудзь з боку, трэба сьцерагчыся, каб разам ёй не занесьці ў гаспадарку такіх захворваньняў, ад якіх ня лёгка потым пазбавіцца. Напрыклад, у буйнай рагатай жывёлы—сухотаў, пошаснага скіду, інфэкцыйнага валініту, матыліцы і інш. Таму трэба каб нованабытую жывёлу зараз-жа агледзіў вэтэрынарны доктар, а ў патрэбных выпадках неабходна зрабіць і лябараторнае дасьледваньне, пасылаючы, напрыклад, узятую ад жывёлы кроў для дасьледваньня на інфэкцыйны скід і г. д.

Зразумела, што кожная жывёла, якая толькі што набыта калгасам павінна прайсьці вызначаны (ня менш 2-х тыдняў) карантын, для чаго ў кожнай гаспадарцы павінен быць асобны будынак для карантыну.



Аб гэтым трэба ўсюды гаварыць, бо гэта часта ня выконваецца і жывёла адразу ставіцца ў агульныя хлявы, або ізаляцыя такой жывёлы робіцца так, што яна не дасягае сваёй мэты.

Апроч будынку пад карантын, у кожным калгасе і саўгасе павінен быць яшчэ будынак для ізаляцыі і лячэньня хворай жывёлы, якую з самага пачатку захворваньня ня варта пакідаць у агульных хлявох, а трэба безадкладна паставіць у ізалятар.

## У кожным саўгасе і калгасе павінна быць вэтэрынарная аптэчка.

Неабходна таксама паклапаціцца аб тым, каб у кожным саўгасе і калгасе меўся неабходны струмант і запас мэдыкамэнтаў, дэзынфэкцыйных сродкаў і прышчэпных матар'ялаў для аказаньня першай дапамогі (да прыезду вэтэрынара), як жывёле сваёй гаспадаркі, так і па мажлівасьці суседняму сялянству.

Неабходна, каб у кожнай гаспадарцы ня менш 2-х разоў на працягу году (вясной, перад выганам жывёлы на пашу і ўвосень перад тым, як ставіць яе ў хлявы) вытвараўся-б вэтэрынарны агляд жывёлы, а больш буйныя саўгасы і калгасы павінны знаходзіцца пад сталам вэтнаглядам.

Трэба ў кожнай гаспадарцы мець правільна пабудаваны могільнік, дзе захоўваліся-б усе трупы паўшай жывёлы і птушак (трупы птушак лепш паліць).

**Усялякую хваробу лягчэй папярэдзіць, чым лячыць.**

У кожным саўгасе і калгасе павінна быць зьвернута ўвага на падбор вопытных і адданых сваёй справе рабочых па догляду за жывёлай—скотнікаў, пастухоў, конюхаў, даярак і інш., бо на захворваньне жывёлы як заразьлівымі, гэтак і не заразьлівымі хваробамі,—мае вялікі ўплыў таксама належны догляд і кармленьне жывёлы. Напрыклад, сухоты рагатай жывёлы звычайнае зьявішча ў неабсталяваных хлявох пры цесным разьмяшчэньні яе і недастатковым руху на сьвежым паветры.

Ня меншае значэньне для здароўя жывёлы мае і правільнае кармленьне яе. Напрыклад, наяўнасьць у гаспадарцы добрай пашы ўлетку, ці добрых спажыўных кармоў узімку, у значнай меры абараняе жывёлу ад захворваньня рознымі хваробамі, бо такі арганізм зьяўляецца больш трывалым супроць заражэньня рознымі інфэкцыйнымі хваробамі, чым аслаблены дрэнным доглядам і кармленьнем.

Вось тыя галоўныя мерапрыемствы супроць пошасна-заразьлівых хвароб жывёлы, якія неабходна праводзіць у савецкіх і калектыўных гаспадарках.

Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**

## Белы мыт у цялят.

Найбольш шкоднай і зьнішчальнай хваробай сярод навароджанага маладняку цялят лічыцца, пры ўтрыманьні ў хлеве, „мыт сысуноў" або „белы мыт цялят". Здараецца так, што ад яго гіне шмат цялят, а часамі гінуць усе да аднаго ў першы тыдзень па нараджэньні.

Для барацьбы з гэтай цяжкай эпізоотыяй рэкомэндуюцца наступныя мерапрыемствы:

1. Стойлы кароў перад ацёлам павінны быць добра ачышчаны, пабелены сьвежым вапенным малаком.

2. Палавыя органы каровы напярэдадні ацёлу павінны быць прамыты цеплаватым 3-проц. растворам крэоліны ці 0,5 проц. растворам лізолу. Хвост каровы трэба прывязаць на бок, пры дапамозе вяроўкі, якую вольна абвязваюць вакол шыі.

3. Пупачны канацік навароджанага цяляці трэба перавязаць блізка жывата вывараным або змочаным у 3-проц. растворы крэоліны або чыстым дзёгцем, матузком.

4. Цялё зараз-жа пасьля нараджэньня, перш, чымся карова яго аблізала, ставіцца ў вычашчанае і абароненае ад скразьнякоў аддзяленьне хлява, ачышчаецца ад сьлізі і выціраецца мяккай саломай або сенам.

5. Цялятам трэба падсьцілаць шмат сухой і мяккай саломы. Хворых цялят трэба зараз-жа аддзяліць ад здаровых.

6. Вымя кароў перад дойкай трэба абмываць. Рукі даільшчыц павінны быць чыста вымыты.

7. Першыя цуркі малака выдойваюць у асобную пасудзіну і зьністажаюцца.

8. Цяля атрымлівае паранае малако па магчымасьці ад сваёй маці з чыстай і добра выпаранай пасудзіны.

9. Пры зьяўленьні мыту, хворыя цяляты павінны быць зараз-жа аддзелены ад здаровых і ў хлеве робіцца дэзэнфэкцыя.

10. Пры лячэньні белага мыту цялят дае добрыя рэзультаты сумесь 1 проц. раствору коларголю ў 15 проц. сумясі камедзістай сьлізі з малаком. Даецца гэта сумесь наступным парадкам: у рацыён дадаецца на кожны літр 2 сталовыя дзіцячыя лыжкі добра ўзбоўтанай сумесі коларголю і камедзі і потым малако перамешваецца. Даваць гэты сродак трэба зараз-жа пры першым рацыёне, не чакаючы зьяўленьня мыту ў сысуноў.

11. Лякарства трэба трымаць у цёмным, прахладным месцы.

12. Калі, ня гледзячы на ўжываньне гэтага лякарства, зьявіцца моцны мыт, дык на другі дзень па нараджэньні цяляці, апрача коларголю, трэба даваць з малаком 2—3 разы ў дзень па чайнай лыжцы настойкі опію.

Вэтэрынарны доктар Багаяўленскі.



Жняяркі за ўборкай ураджаю ў калгасе „Рассвет-Победитель" на Бабруйшчыне.

# Перабудуем і разгорнем жывёлагадоўлю на базе саўгасаў і калгасаў.

**„Усе даныя гаворань за тое, што сьвіньня нам дапаможа найбольш хутка вырашыць мясную праблему“.**

**(Тав. Якаўлеў на XVI зьезьдзе партыі).**

## Сьвіньня катэгорычна патрабуе ліквідацыі сьвінства.

Роля сьвіньні ў вырашэньні мясной праблемы дастаткова ўжо акрэсьлена. Шлях разьвіцьця сьвінагадоўлі, ёсьць шлях арганізацыі спэцыялізаваных савецкіх і калектыўных гаспадарак, з падтрыманьнем разьвіцьця гэтае галіны і ў бядняцка-серадняцкіх гаспадарках. Для пасьпяховай арганізацыі прамысловых сьвінагадоўчых спэцыялізаваных сьвінаводных фабрык мяса, патрэбна фарсаванае будаўніцтва сьвінарнікаў, хутчэйшае ўкамплектаваньне сьвінаматкамі, з поўным захаваньнем як зьбіраемых сьвінаматак, гэтак і ўсяго прыплоду іх, хутчэйшага забесьпячэньня патрэбнымі кадрамі і сапраўднае мабілізацыі вакол гэтых задач на самаахвярную рашучую барацьбу ўсёй пралетарскай грамадзкасьці.

На сёнешні дзень з усёй гастратой акрэсьлілася задача рашучай мабілізацыі ўсіх творчых сіл, зацікаўленых у разьвіцьці сьвінагадоўлі, на барацьбу за захаваньне кожнае сьвінаматкі і сьвіньні, наогул, ад падзежу, ад чумы і іншых хвароб. Але яшчэ далёка ня ўсімі ўяўлена асноўная генэральная ўстаноўка, што трэба прыкласьці ўсе сілы да барацьбы *за захаваньне кожнае сьвінаматкі ў саўгасах, як станка дзяржаўнае мясное фабрыкі.* Яшчэ існуе дзікая азіятчына ва ўмовах утрыманьня, перавозкі, дагляду, як спадчына, характарызуючая задворкавае становішча сьвінагадоўлі ў нядаўным мінулым.

Толькі-ж гэтым мажліва тлумачыць, што вакол захаваньня сьвінаматак да гэтае пары ні ў якай меры не арганізавана нават грамадзкасьць саміх савецкіх гаспадарак. Партячэйкі, рабачкомы, камсамол у саўгасах, спэцыялізучыхся як сьвінагадоўчыя, яшчэ не павярнуліся тварам да сьвінагадоўлі, да асноўных задач, бяз вырашэньня якіх ня могуць быць выкананы задачы арганізацыі сьвінапрамгасаў. Няма яшчэ ўдарнікаў у гэтай галіне, няма сацыялістычнага спаборніцтва. Толькі злачынна-нядбайнымі адносінамі да гэтае важнейшае справы мажліва тлумачыць, што нават на савецкіх гаспадарках мы маем узрост падзежу сьвіней: калі толькі за дэкаду з 1/VII па 10/VII пала ад розных прычын, у тым ліку чумы, нават, па няпоўных зьвестках 61 штука, калі наступная дэкада дае ўзрост да 91 штукі. *Задача захаваньня кожнае сьвінаматкі, кожнае сьвіньні, гэта ёсьць задача задач, без якой сьвіньня ня выканае сваёй гістарычнай ролі „хуткай дапамогі“ ў вырашэньні мясной праблемы.* Кожная паўшая сьвіньня, падсьвінак, парася ўносіць з сабой як мінімум да цэнтнэру мяса, калі ня зараз, дык у зусім блізкай пэрспэктыве.

Наколькі сур'ёзна задача барацьбы з чумой, відаць з паказаньняў, якія робіць вядомы знаўца сьвінных хвароб прафэсар Уранаў, які піша:

„Паступова ў некаторых мясцовасьцях чума натолькі ўкаранілася, што разьвядзеньне сьвіней станавілася немажлівым. У другіх мясцох, дзе чума паяўлялася ўпяршыню, яна зьнішчала да 90% сьвіней. Чума прыносіць вялізарнейшыя, нікім зараз не падлічаныя мільённыя страты. Зусім нядаўна, вырашаючы пытаньне аб разьмерах дзяржаўных фабрык, вучоныя імкнуліся пасадзіць нас на хутары, матывуючы гэта нібыта толькі выключна небясьпекай эпіозотый. Усе яны памыліліся толькі ў тым, што выходзілі ў сваіх вызначэньнях з зусім няправільных, быццам-бы нязьменных азіяцкіх умоў утрыманьня, у якіх знаходзіліся і знаходзяцца яшчэ і цяпер сьвіньні, ня ўлічыўшы, *што ў нас ёсьць усе мажлівасьці ліквідаваць, перамагчы азіяцкія ўмовы і стварыць*



4У калгасе „Майскі дзень" будуецца сьвінарнік.

*такія, пры якіх барацьба з эпіозотыямі ў буйных савецкіх гаспадарках будзе найбольш лёгкай, чым у дробных, раскіданых сялянскіх гаспадарках.*

Саўгасы перададзеныя Сьвінаводу ні ў якай меры ня былі падрыхтаваны, каб на другі-ж дзень стаць абсталяванымі, сьвінаводнымі спэцыялізаванымі гаспадаркамі. Гэта паказвае той факт, што кошт усіх будынкаў сьвінарнікаў у іх вылічаўся ўсяго ў 99.168 руб., будуецца-ж толькі ў гэтым годзе больш, чым на 5 мільёнаў рублёў. Гэта павінна спыніць усе размовы аб тым, што „і савецкія гаспадаркі зараз не абсталяваны, дзеля таго каб у іх пасылаць сьвінаматак", чым спрабуюць прыкрыцца асобныя працаўнікі, якія ня выконваюць заданьняў партыі і ўраду па перадачы сьвінаматак. Аднак, выяўленыя беглым аглядам нават і ў гэтых у асобных саўгасах факты прарываў, інакш як выразным злачынствам, поўным няўяўленьнем запатрабаваньняў мясных фабрык у арганізацыйны пэрыяд, названа быць ня можа.

Праступны ўзор, які павінен паслужыць рашучым папярэджаньнем усіх савецкіх гаспадарак, да чаго можна прыйсьці па саўгасах 1 Сьвінаводу,—даюць саўгасы Лемніца і Дзедзілава, азнаямленьне з якімі праведзена зусім нядаўна. Па 41 апаросу запрыходавана ледзь 193 пара-

сяты, што дае 4,7 штук парасят на адзін апарос. Апаросы ад 17 матак зусім загінулі, прычым ад 13 матак, па словах самаго зоотэхніка, апаросы былі проста зьедзены самымі маткамі. Разам загінула такім чынам за 1929/30 год 153 парасяты, ці пры гадоўлі да 8—9 месяцаў больш 900 пудоў мяса. Ніякага кантролю за апаросамі ня было, дзяжурствы за паросячыміся маткамі адсутнічалі. К часу агляду, сьвіньні знаходзіліся там у недапушчальна азіяцкіх умовах, прабрацца да іх без пагрозы крэпка выкупацца—нельга, гнаёвая жыжа, ня гледзячы на паказаньні інспэктара—не выбіраецца, парасяты худыя, кормяцца брудна, радзільнага аддзяленьня няма. І гэта ў выніку ня толькі гострага недахопу будынкаў, але і нядбайных адносін, неразуменьня нецярпімасьці такога становішча. Прыкладам пераломy зьяўляецца арганізацыя сапраўды здавальняючага карантыну.

Яшчэ горшыя прыклады паказвае саўгас Дзедзілава-Пашкова, у якога на 140 апаросаў запрыходавана ледзь па 3,4 парасяты і засталося ў жывых ледзь па 2,6. Там таксама частка сьвіней знаходзіцца ў недапушчальнай гразі і, догляд забясьпечан так, што матцы перад апаросам замест саломы накідалі дошак, у якіх маглі загінуць парасяты. Гэты саўгас ня можа спаслацца на цяжкія ўмовы з будынкамі.

У справе барацьбы з заносам эпідэміі ў саўгасы вялікую ролю павінны адыграць карантыны. Бяз пропуску праз карантыны сьвінаматкі ня могуць пастyпаць у саўгасы. На жаль, і тут ёсьць яўна нядбайныя адносіны. Некаторыя саўгасы карантынаў зусім не арганізавалі (Кухцічы), некаторыя-ж саўгасы карантынам аб'явілі звычайныя пуні з прымітыўнымі перагародкамі, нават несабраўшы жэрдак, на якіх складалася збожжа (Скрыншчына, Бранчыцы і інш.), ні ў якай меры не прыстасаваныя да спэцыяльных запатрабаваньняў гэтага тыпу пабудоў. Дырэктар саўгасу Слабодка не прызнае суровасьцяй карантынных законаў, самастойна іх зьмяняя, заносячы гэтым чуму. Малюнак карантыну Скрыншчыны і назіраньне дагляду паказвае, якую рашаючую ролю адыгрываюць кадры. З Абчак-Горкі піша старэйшы сьвінар, сасланы „на Салаўкі“, трэба разумець на карантын б. кулацкага хутара—не па нутру відаць ім гэта праца. Застаўшы спаўшым старшага сьвінара, мы бачылі сьвіней без вады і матак настойліва патрабуючых хракаў. Наколькі азіяцкія ўмовы захаваліся сёньня падкрэсьліваюць і другія прыклады, якімі займаюцца сьледчыя органы: Палелюм, дзе сьвіньні і парасяты ні выгулу, ні выпасу, ні зялёнага корму ня маюць, дзе ў сьвінарніку „ўдушлівая атмосфэра“ (з акта вэтурача) і дзе загінула ад усяго гэтага 63 парасяты. У Замошшы, дзе сьвіньні ў зусім нецярпімых умовах, хаця зараз і арганізавалі добры карантын. Па дзьве і тры супаросных сьвінаматкі стаяць у адным станку, ад чаго ёсьць абарціраваўшыя. Маладыя кныры гуртам трымаюцца ў адным станку, дзе і займаюцца ананізмам. Няма ізалятара; захварэўшыя заражаюць і губяць здаровых, дзе ніякіх мер ня прымае супроць гэтага дырэктар,— —паведамляюць сьвінавод і вэтэрынарны ўрач.

Гэтым ня вычэрпваюцца прыклады агіднай азіятчыны і безабразнага сьвінства, мяжуючагася шмат дзе аб'ектыўна з самым сапраўдным шкодніцтвам, якое павінна быць безадкладна з усёй бязьлітаснасьцю, чаго-б гэта каму ні каштавала—поўнасьцю ліквідавана. Уся небясьпека і нецярпімасьць гэтага становішча ўсугубляецца поўнай неразгорнутасьцю навукова-дасьледчай работы па сьвіных хваробах у БССР, гострым недахопам і нездавальняючай падрыхтаванасьцю вэтэрынарных і зоотэхнічных кадраў, яўнай непадрыхтованасьцю вэтэрынары на

барацьбу за поўную ліквідацыю падзяжу, нецярпімым становішчам распыленасьці барацьбы з эпіозотыямі і поўным адсутнічаньнем мабілізаванасьці вакол задач ліквідацыі падзежу, павялічэньня выхаду парасят, прыросту, зьніжэньня сабекошту, усяе савецкае грамадзкасьці і ў першую чаргу рабочых калектываў, пры яўнай недаацэнцы ўсяе справы сьвінагадоўлі. Штаты рабочых у галіне сьвінагадоўлі не арганізаваны: „ніхто ня хоча ісьці на працу, усе сьмяюцца, што сьвінны пастух" і інш.,—скардзяцца дырэктары і спэцыялістыя саўгасаў. Арганізацыя кароткатэрміновых курсаў дырэктарамі сарвана. Прэміраваньне ў галіне сьвінагадоўлі, ня гледзячы на паказаньне зьверху, не наладжана.

Гэткае становішча ні аднаго дню далей цярпіма быць ня можа, асабліва ва ўмовах войстрага недахопу мясных прадуктаў. Для ліквідацыі гэтага становішча трэба пераўзброіць вэтэрынарыю не партызанскімі вылазкамі, а аб'яднанай канцэнтраванай у баявыя атрады ў адзіным органе ВЕТЕПО, пад кіраўніцтвам НКЗ, шырока ва ўдарным



Частка сьвінога стада ў саўгасе „Райцы" на Аршаншчыне.

парадку, у маштабе не асобных саўгасах, а цэлых зон распачаць гэту работу,—і ў першую чаргу ліквідаваць небясьпэку ў саўгасах і калгасах. Гэта павінна быць зроблена безадкладна. Ня звычайныя 10—14-дзённая прывіўка супроць чумы можа вырашыць гэтую справу. Патрэбна ў поўнай меры ў саўгасах правесьці камбінацыйныя прывіўкі, якія-б страхавалі сьвінаматак ад чумы да году, за гэтую работу трэба ўзяцца таксама безадкладна.

Вытворчасьць біопрэпаратаў трэба паставіць пановаму ў поўнай адпаведнасьці з плянамі разьвіцьця сьвінагадоўлі ў саўгасах і калгасах. Трэба застрахаваць ад меўшыхся шкодніцкіх вынікаў прывівак, якія далі масавы адыход пасьля прывівак. Арганізаваныя брыгады па барацьбе з чумой павінны зьявіцца толькі першым пачаткам, за якім гэта работа будзе пабудавана сыстэматычна і ў аб'ёме гарантуючым поўнае спыненьне небясьпекі зрыву з-за чумы ўсіх гаспадарчых плянаў, да чаго вырасла зараз небясьпека ад гэтае хваробы. Неправільным па

нашаму зьяўляецца і тое, што ў брыгады мабілізаваны і вэтурачы з саўгасаў Сьвінавода, дзе яшчэ мажлівы новыя ўспышкі чумы (Палелюм). Саўгасы Сьвінавода нарэшце павінны быць укамплектаваны вэтурачамі. Трэба арганізаваць навукова-дасьледчую работу ў галіне вывучэньня хвароб сьвіньняў, без чаго нельга будзе пасьпяхова весьці барацьбу. Парадаксальным зьяўляецца той факт, што Вэтэрынарны Інстытут накіроўваючы асьпірантаў на часовую работу ў Сьвінавод, „забясьпечыўшы іх“ вывучэньнем тэм аб атруце сабак, а не дасьледаваньнямі актуальнейшых праблем сьвінагадоўлі. Задача разьвіцьця сьвінагадоўлі ў БССР патрабуе, па-мойму, безадкладнай арганізацыі аддзяленьня Усесаюзнага Інстытуту па вывучэньні хвароб сьвіньняў.

З асаблівай гастратой і бязьлітаснасьцю павінна быць пастаўлена і праведзена барацьба па ліквідацыі азіятчыны, што дасьць вялізарны эфэкт. Гэтыя задачы агульна вядомы, яны не аднолькава падкрэсьліваліся ў розных загадах, але яны да гэтай пары яшчэ *злачынна марудна выконваюцца. Гэтыя задачы выцякаюць зараз з аднае асноўнае ўстаноўкі—дабіцца сярэдняга выхаду 8 падсьвінкаў на апарос з максымальным выкананьнем задач пастаўленых XIII партыйным зьездам КП(б)Б у частцы здачы таварных падсьвінкаў. Гэтыя задачы разьлічаны на самацёк, не на расхлябаннасьць, а на рэвалюцыйную, сапраўды бальшавіцкую, работу.* Гэта задача патрабуе вялікага комплексу мер і ў першую чаргу ўпартага, настойлівага паходу супроць гразі, супроць азіяцкіх умоў утрыманьня, нават пры тым становішчы, у якім знаходзяцца сьвінаматкі і сьвіньні наогул. У гэтым ляжыць прафіляктычны мінімум у сьвінагадоўлі. Аб'яўлены па саўгасах тыднёвік палепшаньня ўмоў утрыманьня павінен даць ліквідацыю гразі, дастройку карантынаў, прыстасаваньне ізалятараў, бязумоўна сыстэматычна падтрымоўваемую чыстату, забесьпячэньне сьветам, вольным паветрам, выпасам усіх сьвіней, выганам і зялёным кормам.

Зоовэтмінімум у саўгасах павінен быць ажыцьцёўлены поўнасьцю і безадкладна. Нарэшце павінен быць выкананы жалезны закон вэтэрынарыі, па якім бяз вэтурачоў ніякім перасоўкам як у гаспадаркі, гэтак і ў карантыны сьвіньні падвергнуцца ня могуць. Саўгасы зараз перарэзаны з усіх бакоў дарогамі і пры наяўнасьці чумы ў зоне знаходзяцца кожны дзень пад небясьпекай заразы. Праз РВК трэба пераглядзець сетку дарог, забараніць злучкі ў саўгасе, прыняць другія меры, якія-б забясьпечылі лепшую ізаляцыю сьвіньней ад заносу чумы.

Неабходнасьць фарсіраваньня ўкамплектаваньня сьвінаматак і лепшага разьмяшчэньня іх патрабуе сапраўды ўдарнага новага будаўніцтва. Белкалгасбуд стаў на дарозе выкананьня вялікіх задач па ўкамплектаваньні сьвінаматак. Да і ня толькі Белкалгасбуд, але ўсе, хто нявыканаў даручанай часткі задач асабліва па адгрузцы будаўнічых матар'ялаў. Першыя матачнікі, якіх-бы цяжкасьцяй гэта ні каштавала, павінны быць выкананы ў першай палове жніўня. Поўнасьцю павінны быць прыстасаваны старыя будынкі, усё што мажліва выкарыстаць у саўгасах. Павінны дзеля гэтай мэты быць пераданы саўгасам дадаткова будынкі, узятыя ад кулацкіх гаспадарак, ліквідуючы такое становішча, пры якім раённыя ўстановы не заўсёды цікавяцца як будзе выканана праграма ўкамплектаваньня сьвінаматкамі. Павінны быць безадкладна із'яты з саўгасаў Сьвінавода цяляты, авечкі і пераданы жывёлаводчым саўгасам, а іх месцы заняты сьвінаматкамі.

Рашаючую ролю ў выкананьні ўсіх гэтых задач павінен адыграць творчы энтузіязм рабочых калектываў. Трэба рашуча асудзіць апарту-

нізм асобных рабочых камітэтаў, якія выказваюцца супроць укамплектаваньня, да новых пабудоў: „з цэнтра нажымаюць, умоў няма і сьвіньні загінуць“, замест рашучай барацьбы за стварэньне спрыяючых ўмоў. Пры такіх шкодных настроях нічога выратаваць нельга. Павінен быць укамплектаваны безадкладна штат па сьвінагадоўлі, лепшымі, найбольш падрыхтаванымі рабочымі. Праз курсы, гурткі, экскурсіі, канфэрэнцыі, вытворчыя нарады павысіць вытворчую кваліфікацыю. Павінны быць палепшаны матар'яльна-бытавыя ўмовы гэтай катэгорыі рабочых у першую чаргу. Трэба ў пераважнай большасьці фонды прэміраваньня пераключыць на працаўнікоў сьвінагадоўлі, пачаўшы безадкладна прэміраваньне рабочых, якія выканаюць пастаўленыя нормы заданьняў. Нарэшце трэба ліквідаваць маючыйся апартунізм асобных ячэек, рабачкомаў,



Супроцьчумная прывіўка сьвіньням у саўгасе „Райцы“ на Аршаншчыне.

дырэктароў, камсамолу ня ўзяўшыхся сур'ёзна за задачы арганізацыі сьвінапрамгасаў. Павінна быць і будзе ўзьнята адказнасьць кожнае часткі трохкутніка за задачы сацыялістычнае сьвінагадоўлі. Насьценгазэты павінны павярнуцца тварам да свіньні, рашуча перабудаваць зьмест сваёй работы. А вакол барацьбы за 8 парасят ад апаросу, за ліквідацыю падзежу, за ліквідацыю азіятчыны, за выкананьне ўсіх якасных паказчыкаў, нізкі сабекошт і інш. трэба разгарнуць сапраўднае соцыялістычнае спаборніцтва, узяўшы на грамадзкі буксір адстаючыя.

Каленым жалезам трэба выпаліць тое, што ня ідзе на карысьць пралетарскай дзяржаве. Вакол задач барацьбы за лепшыя прыклады работы мясных пралетарскіх фабрык трэба ўзьняць шырачэйшыя рабочыя масы, дзеля гэтага павінны быць выкарыстаны ўсе формы, якія будуць садзейнічаць поўнай мабілізаванасьці рабочых калектываў вакол задач, ускладзеных на саўгасы партыяй і ўрадам. Сьвіньня настойліва пратэстуе супроць сьвінства. Яна рашуча патрабуе ад пралетарскай грамадзкасьці дапамогі ліквідацыі ўсяе азіятчыны і ў адзнаку свае падзякі прынясе рабочае клясе новыя сотні і тысячы тон спажыўнага маса.

Т. Аўчыньнікаў.

# ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА СЕЛЬСКАЙ Г

**агляд дасягненьняў сацыялістычнага будаўніцтва**
**пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, пры вя**
**Савецкага Саюзу.**



## ...СКАЯ ВЫСТАЎКА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ —

...сацыялістычнага будаўніцтва БССР за 10 год
...амуністычнай партыі, пры вялікай дапамозе
Савецкага Саюзу.



## Расьцем за лік бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

*(Калгас „Гарадок", Шклоўскі раён).*

За апошні час склад калгасу „Гарадок" павялічваецца за лік беднякоў і серадпякоў. К канцу гэтага году рост нашага калгасу будзе, у параўнаньні з цяперашнім—на 80%. Гэта тлумачыцца правільным кіраўніцтвам мясцовай партыйнай арганізацыі, калгасным будаўніцтвам і паляпшэньнем эканамічнага становішча калгасаў.



Калгасьнікі падпісваюцца на пазыку „5-годка ў 4 гады".
(Калгас „Рассвет Победитель", Бабруйшчына).

Дзякуючы працаздольнасьці складу праўленьня, уся праца ў калгасе як вытворчая, гэтак і будаўнічая—праводзіцца па пляну. Асабліва зьвернута зараз увага калгасьнікаў на ўборачную і асеньнюю кампанію. Уборку сенажаці канчаем 18/VIII, азіміны 13/VIII і малацьбу

1/IX. Наогул уборку ўсякіх культур канчаем 15/IX і малацьбу 15/X. Сяўбу азімых культур калгас канчае 28/VIII. Пасевы ўтвараем выключна гатунковым і пратраўленым зярном.

Плошчу пасеву ў гэтым годзе павялічваем у параўнаньні з мінулым годам на 57,89%, уся плошча ўгнойваецца гноем і мінэральным угнаеньнем.

З мэтай падняцьця прадукцыйнай рагатай жывёлы, калгас прыступіў да пабудовы скотнага сараю на 100 галоў па новаму праекту. Закладзены сіласныя ямы, што дасьць магчымасьць павялічэньня рагатае жывёлы на 28% і павялічэньня ўдою малака на 25%. Павялічэньне племянных вытворцаў на 50%. Адначасова з гэтым павялічваецца сьвіное стада на 64,28% за лік маючагася маладняка. Наогул валавая пра-



Ударная жаночая брыгада за ўборкай ураджаю.
(Калгас „Рассвет Победитель“, Бабруйшчына).

дукцыя калгасу „Гарадок“ павінна павялічыцца ад усіх галін гаспадаркі ў параўнаньні з мінулым годам—у 10—15 разоў больш, г. з. павінна даць прадукцыі на 20—25 тысяч руб.

У сучасны момант калгас мае свой цагельны завод, які к канцу году дае каля 225 тысяч цэглы, 2 млыны: ветраны і вадзяны, апошні будзе пераабсталёўвацца, будзе зроблена другая, новая падстава і ставіцца дызэль.

Малочны завод таксама заканчваецца. Галоўныя перашкоды ў пабудове малочнага заводу—недахоп рабочае сілы. Абслугоўваньне ўсіх гэтых прадпрыемстваў вядзецца часткова наёмнай сэзоннай рабсілай (кваліфікаваныя спэцыялістыя), а астатнія абслугоўваюцца калгасьнікамі.

Атрымана крэдытаў каля 10—12 тысяч рублёў на розныя патрэбы калгасу, якія поўнасьцю зрасходаваны на жывёлагадоўлю і будаўніцтва.

Значна палепшыўся быт калгасу. Пабудаваны тры дамы на 7 кватэр і к канцу гэтага году мяркуем пабудаваць яшчэ два дамы на 5 кватэр.

Аплата працы вытвараецца штомесячна з сродкаў, якія атрымоўваюцца за малако і мельніцы. Разьлік утвараецца ў палавінным разьмеры, а палова застаецца да справаздачнага году (па падзённаму і зьдзельнаму разьліку, але сярэдні заробак не правышае 1 р. 52 к. у дзень).

Культпраца ў калгасе праводзіцца слаба ў летні час, а ў зімовы час калгасьнікі наведвалі школу сялянскае моладзі, школу малапісьменных і лікпункт. Выпісваецца шмат розных газэт і часопісаў. Маецца бібліатэчка ў 172 кніжкі па розным пытаньням.

Калгас уступіў у сацыялістычнае спаборніцтва з некаторымі калгасамі па ўборачнай, асеньняй пасеўнай кампаніі і падняцьцю вытворчасьці працы. Калгас мае розных аблігацый на суму 50 руб., а таксама падпісаліся калектыўна на пазыку „5-годка ў чатыры гады“ на 120 руб. і кожны паасобку калгасьнік падпісаўся ня менш як на месячны заробак—усяго на 530 руб., а разам усяго ў калгасе аблігацый на 650 руб.

**Калгасьнік.**

## Расьцем і ўзмацняемся.

*(Калгас імя Сталіна, Чачэрск. раёну).*

Калгас імя Сталіна ўтварыўся 7 кастрычніка 1929 г., у ліку 10 асоб з сялян беднякоў і серадняков.

Дзякуючы належнай масавай працы партыйнай і камсамольскай ячэйкі і актывістых беднаты в. Аннапольле, калгас адразу пачаў расьці. Зараз у калгасе: батракоў—9, беднякоў—10, серадняков—9. Коняй рабочых—33, малагадовых—5, кароў—41.

Веснавая сяўба прайшла пры актыўным удзеле ўсіх калгасьнікаў і калгасьніц. Камсамольская ячэйка абвясьціла сябе ўдарнай і пад лёзунгам сацспаборніцтва праводзіла сваю работу ў сяўбовую кампанію. Цягавай і трактарнай сілай плошча калгаснай зямлі была засеяна ў свой час.

У веснавую сяўбу пасеяна: бульбы 25 *га*, аўса „Залаты дождж“—13 *га*, аўса з канюшынай — 25 *га*, агароду з гуркамі і капустай—3 *га*, грэчкі—9 *га*, проса—2 *га*, вікі—26 *га*, ячменю 6 *га*, буракоў харчовых—1 *га*, лёну даўгунца—8 *га*, морквы карацель—9 *га*, фасолі—2 *га*, травы—10 *га*, гароху ў садзе (мешанага)—1 *га*, пітомніку ягаднага—6 *га*.

Калгас імя Сталіна мае садова-агародны ўхіл. З гэтае прычыны Акркалгассаюз і Паляводсаюз аддалі гэтаму калгасу сад у 13 *га*.

Маецца крэйдавы завод, цэмантна-бэтонны, паравая мельніца, на якую зараз адпускаюцца сродкі для рамонту і якая будзе абслугоўваць амаль што ўсю тэрыторыю Чачэрскага раёну.

Усё гэта дае вялікія пэрспэктывы калгасу для росту яго эканомічнай моцы і далейшага ўзбуйненьня. Калгас добра падрыхтаваўся да ўборачнай і асеньняй кампаніі.

У бліжэйшыя гады мяркуецца засадзіць 100 *га* саду. Калгасьнікі зразумелі значэньне калектывізацыі і прыступілі да сур'ёзнай, бальшавіцкай працы па перабудове сельскай гаспадаркі, наведваюць палітычны гурток па распрацоўцы XIII і XVI зьезду партыі, цікавяцца культурна-выхаваўчай працай. Але, на жаль, настаўнікі, сябры калгасу, у гэтай галіне адстаюць.

Адно з хворых месц калгасу—адсутнічаньне належных памяшканьняў для жывёлы. З гэтай мэтай зараз будуецца кароўнік і канюшня. Ідзе пляніроўка на пабудову сьвінарніка для 100 матак. Другое хворае месца —недахоп працоўнай сілы. Але калгасьнікі вылячаць гэтае месца праз ударніцтва і сацспаборніцтва і апраўдаюць назву калгасу імя Сталіна.

Калгасьнік **К. П. Рыкуноў.**

# Маем прыліў у калгас.

*(Калгас „Пралетарская Перамога“, Меншчына).*

Наш калгас арганізаваўся вясной г. г. з 30 гаспадарак. Калгас вельмі раскіданы па пасёлках. Гэта не дае магчымасьці зямляўпарадкаваць калгас. Але, ня гледзячы на раскіданасьць вясновую пасеўную кампанію правялі па-бальшавіцку, працавалі па ўдарнаму і скончылі 27 мая.

Плян вясеньняй пасеўкампаніі выкананы на 128,3 проц. Па галоўным культурам, як-та: авёс, ячмень, грэчка, бульба, лён і каноплі



Брыгада сельгаслесрабочых за ўборкай ураджаю ў калгасе „Новы Сьвет“.

замест намечаных па пляну 82,25 *га,* засеяна 105,75 *га.* Пасяўная плошча пад яравы клін за кошт аблог і папару павялічана на 15 *га.* У час веснавой працы жанчыны расчысьцілі пад сенажаць хмызьнякоў 6 *га.*

Калгас аказаў дапамогу калгасу „Бальшавік“ і тром бядняцкім гаспадаркам. Па сканчэньні пасяўной кампаніі праведзены масавы сход калгасьнікаў сумесна з аднаасабовымі бядняцка-серадняцкімі сялянствам, пры ўдзеле рабочых (шэфаў), на якім абгаварваліся вынікі пасяўной кампаніі; на гэтым сходзе прысутнічала звыш 300 чалавек.

Калгасьнікі сваячасова ўзяліся за падрыхтоўку да ўборачнай кампаніі. К уборцы прыступілі падрыхтаванымі. Уся рабочая сіла разьбіта на брыгады (касцы, з граблямі, возчыкі і г. д.). Арганізаваны яслі на 30 дзяцей, куды на 20 проц. прыняты дзеці і не-калгасьнікаў.

Ёсьць прыліў у калгас. Пададзена ўжо 5 заяў беднякоў і серадняком аб прыёме ў калгас.

Калгас „Пролетарская Перамога“ пасьпяхова выконвае ўзятыя на сябе абавязкі і зьяўляецца прыкладам для акаляючага бядняцка-серадняцкага сялянства.

С. Зуеў.



## ПРАДСТАЎНІК 60.000 СЕЛЬГАСЛЕСРАБОЧЫХ.

**Тав. ЛУЧЫНА, Іоў Нічыпаравіч, абраны сходам сельгаслесрабочых Барысаўскага раёну дэлегатам на V кангрэс Прафінтэрну.**

Тав. Лучына нарадзіўся ў 1868 г. у сям'і селяніна-бедняка. З 1881 г., г. зн. з 13 год, пашоў працаваць па найму ў якасьці батрака і працаваў да 1889 г., калі быў прызваны ў царскую армію, дзе праслужыў 4 гады. З 1893 па 1896 г. працаваў плытагонам. З 1896 году да гэтага часу працуе лясьніком у Веляціцкім лясьніцтве ў адным і тым-жа абходзе. Такім чынам, вытворчы стаж тав. Лучыны—45 год. Член саюзу з 1918 г., увесь час прымае актыўны ўдзел у прафсаюзнай рабоце, член РКК, член рэвкамісіі, зараз намесьнік старшыні таварыскага суду. Ударнік.

# За пісьменны калгас.

## Патрэбен рэвалюцыйны тэмп.

Барацьба за пісьменнасьць, за такі вучастак культуры, які датычыцца непасрэдна шырокіх колаў працоўных, асабліва калгасьнікаў, дзе мы маем палову няпісьменных,—ударная задача сёняшняга дню. Няпісьменнасьць зьяўляецца найвялікшым тормазам сацыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Уздым культурнага ўзроўню калгасьнікаў павінен разам зьявіцца культурным уздымам бядняцка-серадняцкага сялянства вакольных вёсак.

Калі мы за год зьліквідуем няпісьменнасьць у калгасах,—гэта значыць зрабіць вялізарны крок наперад. Для ажыцьцяўленьня задачы 100 проц. ліквідацыі няпісьменнасьці ў калгасах, нам трэба мабілізаваць волю і сродкі працоўных навокал гэтага пытаньня і ў першую чаргу ўсю грамадзкасьць саміх калгасьнікаў.

Кіраўніцтва справай па ліквідацыі няпісьменнасьці ў калгасах згодна абежніку Наркамасьветы, ЦС т-ва „П. Н.“ і Белкалгасцэнтру належыць культурна-бытавым камісіям. Непасрэдна займацца ліквідацыяй няпісьменнасьці культурна-бытавая камісія ня зможа, ды было-б памылкова і казаць, што гэтай справай павінна займацца толькі культурна-бытавая камісія. Сама работа па ліквідацыі няпісьменнасьці павінна праводзіцца ў калгасах грамадзкім шляхам. Толькі пры актыўным удзеле грамадзкасьці і ячэйкі „П. Н.“ мы зможам праводзіць ліквідацыю няпісьменнасьці з належным для нас посьпехам.

З чаго павінна пачынаць сваю работу культурна-бытавая камісія калгасу пры пачатку арганізацыі справы ліквідацыі няпісьменнасьці малапісьменнасьці? Першае, на чым павінны спыніцца культурна-бытавая

камісія і ячэйка „П. Н.“, гэта правесьці вучот няпісьменнага і малапісьменнага насельніцтва калгасу ва ўзросьце ад 12 да 35 год. Самы вучот трэба наладзіць грамадзкім шляхам, прыцягнуўшы да гэтай справы камсамольцаў, вучняў школы сямігодак. Трэба вылучыць для гэтай справы добра пісьменных таварышоў, якія шляхам індывідуальнай гутаркі выяўляюць няпісьменных і малапісьменных.

Няпісьменным трэба лічыць таго, хто ня ўмее чытаць і пісаць. Няпісьменным лічыцца і той, хто можа чытаць, але-ж ня ўмее пісаць. Малапісьменным лічыцца той, хто можа чытаць, пісаць, але-ж чытае і піша з цяжкасьцю, а з разьвязваньнем нескладных арытмэтычных задач ня зможа справіцца.

Маючы вучот няпісьменных і малапісьменных, перад культурна-бытавой камісіяй паўстане задача: арганізацыя самой вучобы. Да яе трэба аднесьці наступныя моманты: кадры, сетка лікпунктаў, памяшканьні, сродкі і палітыка-асьветная работа.

## Як арганізаваць вучобу.

Калі зроблены вучот няпісьменных калгасьнікаў, адным з галоўных момантаў далейшай работы будзе—арганізацыя вучобы.

Часта бываюць выпадкі, што ў калгасе няма лікпункту і школы, калгасьнікі прымушаны хадзіць у лікпункт за 2—3 кілёмэтры. Задача культурна-бытавой камісіі і ячэйкі „П. Н.“—наблізіць лікпункт да калгасьніка, а не калгасьніка набліжаць да лікпункту, альбо школы малапісьменных. Практычна тэрыторыяльны прынцып сеткі лікпунктаў і і школ малапісьменных адыгрывае немалаважную ролю ў пытаньнях наведваньня, правядзеньня з імі палітыка-асьветнай работы. Большая частка няпісьменных у калгасах—жанчыны, якія да гэтага часу ўсё-ж вельмі заняты гаспадарчай работай, ня змогуць заўсёды наведваць лікпункт. Апрача гэтага, наша задача: прыцягнуць у лікпункт няпісьменных беднякоў і сераднякоў з бліжэйшых вёсак, паказаць ім жыцьцё калгасу, тыя дасягненьні і перавагі, якія мае калгас перад індывідуальнымі дробнымі гаспадаркамі.

Правільнае разьмеркаваньне сеткі лікпунктаў вырашае пытаньне адсеву, бо мы зможам мець добрае наведваньне лікпунктаў малапісьменнымі, зрабіць саманавучаньне цікавым праз разгортваньне масавай работы.

Некаторай перашкодай зьяўляецца тое, што няпісьменны, будучы заняты працай у калгасе на працягу ўсяго дня, да самага пачатку заняткаў у лікпункце,—прымушан адразу пасьля работы ісьці на заняткі, у выніку чаго мы маем дрэнную прапрацоўку матар'ялу, альбо зусім адсутнасьць тых таварышоў, якія былі ў гэты дзень на працы. Трэба паставіць перад праўленьнем калгасаў пытаньне так, каб занятых работаю асоб, якія наведваюць лікпункты, вызвалялі на пару гадзін раней ад выконваемых імі абавязкаў. Для жанчын, у якіх ёсьць дзеці, трэба таксама забясьпечыць наведваньне лікпунктаў і школ малапісьменных, арганізаваўшы дзіцячыя пакоі, дзе яны змаглі-б пакінуць сваё дзіцё на час заняткаў у лікпункце пад наглядам вылучаных для гэтай мэты асоб. Калі культурна-бытавая камісія і ячэйка „П. Н.“ калгасу своечасова прымуць захады да зьнішчэньня тых перашкод, што спрыяюць адсеву ў лікпунктах, дык тым самым яны забясьпечаць нармальную работу лікпунктаў.

## Арганізацыя школ, лікпунктаў і груп.

Школа, лікпункт у калгасах па сваёй арганізацыйнай структуры не павінны нічым адрозьнівацца ад існуючага тыпу гэтых устаноў. Лікпункт зьяўляецца першай ступеньню ў сыстэме Народнай асьветы дарослых. Непасрэдным працягам лікпунктаў зьяўляецца школа малапісьменных. Лікпункт ставіць сваёй мэтай даць асноўныя тэхнічныя звычкі чытаньня, пісьма і лічэньня ў межах праграмы, зацікавіць вучняў да далейшай работы па замацаваньню і пашырэньню набытых ведаў па лікпункту; паказаць шлях практычнага выкарыстаньня пісьменнасьці ў жыцьці і зацікавіць грамадзка-палітычным жыцьцём краіны. Апошні момант у рабоце лікпункту павінен заняць галоўнае месца, бо калі гэтага кіраўнік лікпункту не дасягне, дык уся яго работа не дасягне мэты. Навучаны ім няпісьменны хутка зноў будзе няпісьменным.

Прыём вучняў на лікпункты робіцца камісіяй у складзе прадстаўніка ад савету калгасу, ячэйкі „П Н.“ і камсамольскай ячэйкі. Перад



Ударная брыгада касцоў у калгасе „Вольнае жыцьцё“.

камісіяй павінны стаяць наступныя задачы: правесьці правільнае ўкамплектаваньне лікпунктаў па ўзросту і пісьменнасьці.

Самым добрым для работы лікпунктам, трэба лічыць той, дзе будзе налічвацца 20—25 вучняў. Калі будзе большая колькасьць вучняў, дык гэта лічыцца з мэтадычнага боку адмоўным, бо аднаму настаўніку справіцца з вялікай колькасьцю вучняў, з размаітнымі запатрабаваньнямі ня будзе магчымасьці. Такі лікпункт не прапрацуе належным чынам праграмы.

Утвараць малыя лікпункты на 5—6 асоб ня зусім пажадана таму, што патрабуецца значная колькасьць кіраўнікоў лікпунктаў, ды, у дадатак, ня будзе магчымасьці абхапіць разрозьненых няпісьменных і малапісьменных масавай палітыка-асьветнай работай. Лікпункты і школы малапісьменных трэба імкнуцца ўтвараць больш буйнымі.

Групы для няпісьменных і малапісьменных трэба ўтвараць там, дзе ёсьць зусім нязначны лік асоб, якіх трэба навучыць.

Адзначаючы аб ужываньні індывідуальнага навучаньня, усё-ж галоўнай задачай у нашай рабоце зьяўляецца—утварэньне буйных лікпунктаў, бо незаўсёды патрэбна арганізаваць лікпункт. Напрыклад, мы маем 4—5 няпісьменных у калгасе; там, вядома, прыдзецца стаць на шлях групавога навучаньня. Зараз мы маем сярод старых калга-

саў такія, дзе ліквідацыя няпісьменнасьці амаль што закончана, маючы ўсяго толькі 2—3 няпісьменных. Вядома, што калгасьнікам гэтых калгасаў прыдзецца стаць на шлях групавога і індывідуальнага навучаньня. Ячэйка „П. Н.“ у даным выпадку павінна ўзяць на сябе ініцыятыву праводзіць гэту работу. Лёзунг—„пісьменны, навучы няпісьменнага“—павінен знайсьці адбітак на справе.

Маючы падрыхтаваных таварышоў для індывідуальна-групавога навучаньня, ячэйка „П. Н.“ павінна разгортваць сваю работу і ў бліжэйшых вёсках, якія не ўваходзяць у калгас, утвараючы там групы. Ячэйка калгасу павінна прыняць усе захады да падрыхтоўкі ліквідатараў з калгасьнікаў, якія-б змаглі праводзіць ліквідацыю няпісьменнасьці індывідуальным шляхам. Для падрыхтоўкі калгасьнікаў да гэтай работы, трэба ў буйных калгасах утвараць курсы, а таксама прымаць захады да штодзённага кіраўніцтва індывідуаламі з боку апорных пунктаў, школ, раённага інспэктара асьветы.

Лікпункт, альбо школа павінны выбраць сваё самакіраваньне, якое апрача арганізацыі ўнутранага жыцьця школы альбо лікпункту, наладжвае сувязь з палітыка-асьветнымі ўстановамі для абслугоўваньня іх масавай работай, наладжвае сувязь з установамі аналёгічнага тыпу, для абмену вопытам сваёй работы, правядзеньня сумеснай работы.

Мэтадычнае кіраўніцтва работай лікпунктаў і школ малапісьменных ажыцьцяўляецца праз школу сацвыху і апорныя лікпункты. Настаўнік школы сацвыху і апорнік склікаюць кіраўнікоў лікпунктаў, груп і індывідуалаў і інструктуюць іх. Буйны лікпункт вырашае ў дадатны бок забесьпячэньне належным падрыхтаваным кіраўніком, памяшканьнем і абслугоўваньне рознымі відамі палітыка-асьветнай работы.

Час навучаньня ў лікпунктах па праграмах разьлічаны ў вясковых умовах на 264 навучальныя гадзіны, з разьліку 12 гадзін у тыдзень, але-ж ва ўмовах калгасу нам трэба лік гадзін павялічыць да 312, праціяг навучальнага году ў лікпунктах зрабіць бесьперапынным. У летні час замест лікпункту і школы малапісьменных, у калгасе павінна быць разгорнута гурткавая работа, якая ахопіць усіх вучняў лікпунктаў і школ.

## Кадры.

Для ліквідацыі няпісьменнасьці ў калгасе патрэбны ня толькі кіраўнікі лікпунктаў,—гэта мала,—нам патрэбны для правядзеньня гэтай ударнай работы настаўнікі-ліквідатары, якія працуюць у лікпункце, арганізатары, якія арганізоўваюць саманавучаньне і палітыка-асьветныя працаўнікі, якія абслугоўваюць вучняў.

Ва ўмовах калгасу мы не заўсёды маем школы і настаўніка, якога можна было-б прыцягнуць да работы ў калгасе. У такіх выпадках для работы ў лікпунктах трэба прыцягваць падрыхтаваных камсамольцаў, членаў т-ва „П. Н.“ З гэтымі таварышамі трэба правесьці некалькі гутарак па мэтодыцы навучаньня грамаце ў лікпункце, а таксама ў працэсе самой работы лікпунктаў сыстэматычна склікаць нарады ўсіх кіраўнікоў лікпунктаў для абмену вопытам работы і вырашаць пытаньні, якія могуць узьнікнуць на лікпункце ў кожнага кіраўніка паасобку.

Актыў „П. Н.“ і камсамольцаў трэба выкарыстоўваць для арганізацыйнай работы (падбор памяшканьняў для заняткаў, укамплектаваньне лікпунктаў, забесьпячэньне падручнікамі і дапаможнікамі).

Культурна-бытавая камісія і ячэйка „П. Н.“ павінны сваячасова прыняць захады да падрыхтоўкі заняткаў у лікпунктах, прыцягнуўшы для гэтай работы ўвесь актыў калгасьнікаў. Значна горш будзе справа абстаяць з кадрамі для палітыка-асьветнай работы з вучнямі ў лікпунктах, але-ж гэта ня значыць, што гэты від работы праводзіць ня трэба. Для правядзеньня гэтай работы трэба выкарыстаць членаў ячэйкі КП(б)Б, настаўнікаў, аграномаў, урачоў.

Памяшканьнямі для лікпунктаў могуць служыць школы, клюбы, чырвоныя куткі калгасаў, але-ж трэба заўсёды памятаць, што ад умоў работы будзе залежыць посьпех яе. Памяшканьне павінна адпавядаць запатрабаваньням лікпункту-школы. Мэбля і прылады, патрэбныя для лікпунктаў, павінны быць у наяўнасьці, ды і само памяшканьне трэба зрабіць падыходзячым для заняткаў.

Дзе будзе працаваць лікпункт на працягу бягучага навучальнага году, трэба загадзя ведаць усё насельніцтва калгасу.

Значна лепш вырашаецца ў калгасах грашовая справа па ліквідацыі няпісьменнасьці. Па мясцоваму каштарысу вызначаных сродкаў,



Уборка ўраджаю ў калгасе.

вядома, будзе хапаць і на падручнікі, навучальныя дапаможнікі, на аплату настаўніку, але-ж самі калгасьнікі, ячэйка „П. Н.“ і культурна-бытавая камісія павінны ставіць задачу зьліквідаваць няпісьменнасьць у калгасе, шляхам прыцягненьня грамадзкасьці да ўдзелу ў гэтай справе. Тыя сродкі, што застануцца, трэба выкарыстаць на паляпшэньне культурна-масавай работы, дзе нам патрэбна затрата сродкаў на газэты, кніжкі, часопісі. Таму трэба імкнуцца, каб настаўнікі і кіраўнікі лікпунктаў працавалі ў парадку грамадзкай нагрузкі.

### Палітыка-асьветная работа ў лікпунктах.

Актыўнасьць работы ў школе соцвыху залежыць ад школьнага выхаваньня, а актыўнасьць работы ў лікпункце будзе залежыць ад праведзенай палітыка-асьветнай работы.

У часе падрыхтоўкі да заняткаў у лікпунктах, палітыка-асьветным установам і грамадзкім арганізацыям калгасу трэба правесьці

шырокую масавую работу, давесьці няпісьменнаму аб значэньні пісьменнасьці, чаму яму трэба вучыцца ў лікпункце. Ад папярэдняй агітацыйнай работы будзе залежыць посьпех самога камплектаваньня.

Трэба правесьці рашучую барацьбу з тымі шкоднымі думкамі, якія пануюць сярод няпісьменных—„Мой дзед і бацька былі няпісьменныя, але-ж жылі, пражыву і я“. Вядома, што супроць нежаданьня вучыцца выступаць з абстрактнымі довадамі „ученье—свет, а неученье тьма“, нельга. Трэба давесьці, што пісьменнасьць паляпшае жыцьцё, што пісьменнасьць дапамагае прадукцыйнасьці работы. Няпісьменнага можна загітаваць толькі шляхам сыстэматычнай палітыка-асьветнай работы з няпісьменнымі.

Разам з тэхнікай навучаньня па лемантару і кніжцы, для малапісьменных трэба раз у тыдзень праводзіць гутаркі. Зьмест гэтых гутарак не павінен быць аднолькавы. Трэба закрануць пытаньні сьветаства-рэньня, пра паходжаньне жыцьця на зямлі, паходжаньне рэлігіі, пытаньні сучаснага жыцьця. Самае галоўнае, аб чым трэба памятаць—гэта палітычны зьмест самой работы з няпісьменнымі.

Каб дабіцца эфэкту ў масавай палітыка-асьветнай рабоце, мы не павінны пакідаць бяз увагі запатрабаваньні няпісьменных. Тыя думкі, настроі, якія ўзьнікаюць у няпісьменнай аўдыторыі, трэба падхапіць, даць ім належную ацэнку, накіраваць іх па шляху, якога патрабуе сёняшняе жыцьцё грамады.

Значную дапамогу ў правядзеньні палітвыхаваньня вучняў зможа адыграць газэта. У нашых умовах газэты для малапісьменнага чытача пакуль што няма, але-ж з посьпехам можна выкарыстоўваць „Беларускую вёску“. Нашы падручнікі маюць надзвычайна мала матар'ялу, які-б узьдзейнічаў на малапісьменнага чытача, мала мастацкай літаратуры. Трэба ў програму заняткаў увесьці чытаньне мастацкай літаратуры, наладжваць літаратурныя вечары для малапісьменных, гутаркі, кіно, радыё.

Курс агульна-адукацыйных і палітычных гутарак, лекцый, чытаньне газэты, літаратурна-мастацкія вечары — значна пашырыць кругагляд вучня, значна выправяць аднабаковасьць нашых падручнікаў і дапаможнікаў.

Ня трэба забываць пра ўцягненьне ў культурна-масавую работу бядняцка-серадняцкіх мас, якія ня вучацца ў лікпункце альбо школе, якія не ўваходзяць у калгас. Гэтыя масы трэба ўцягнуць у масавую работу, бо гэта будзе зьяўляцца лепшай агітацыяй за новыя калектыўныя формы земляробства.

**Васіль Макароў.**

---

# Кожны калгасьнік павінен мець аблігацыю пазыкі „Пяцігодка — у чатыры гады“.

# Лясная гаспадарка на выстаўцы.

Аддзел лясной гаспадаркі на I Усебеларускай выстаўцы арганізаван з мэтай выпаўніць асноўныя заданьні выстаўкі. Асноўнымі-ж устаноўкамі былі: 1) Выявіць прадпрынятую рэканструкцыю лясной гаспадаркі і пэрспэктывы гэтай рэканструкцыі. 2) Зрабіць экспанаты выгаднымі для разуменьня шырокіх працоўных мас і 3) Максымальна прадставіць экспанаты ў натуральным выглядзе і мінімальна прадставіць папяровага матэрыялу.

Так як жывыя дрэўныя экспанаты растуць павольна, то падрыхтоўчыя работы па аддзелу лясной гаспадаркі пачаты былі зараз-жа пасьля сфармаваньня дырэкцыі выстаўкі і прызначэньня загадчыка аддзелу.



На выстаўцы каля жывых экспанатаў.

Яшчэ зімой 1928-29 г. праведзены работы па здабычы пасеўнага і пасадачнага матар'ялу, вясной 1929 г. закладзены: лясны пітомнік, лясная школа, дэндролёгічная школа, падрыхтаваны пляц для лясных культур.

Месцы для натуральных жывых экспонатаў абраны таксама ў адпаведнасьці з асноўнымі заданьнямі для выстаўкі. На базе аддзелу лясной гаспадаркі павінны будуць зараз-жа пасьля зачыненьня выстаўкі разгарнуцца лясныя навукова-дасьледчыя ўстановы Навукова-Дасьледчага Інстытуту. Гэтым і тлумачыцца той факт, што лясны аддзел выстаўкі зьмешчан не на галоўнай тэрыторыі выстаўкі, а на другі бок Барысаўскага тракту, бо тут да аддзелу непасрэдна прылягаюць установы і пляцы Сьляпянскай раённай лясной дасьледчай стан-

цыі ў выглядзе сасновага парку, дасьледчага дэндролёгічнага саду, дасьледчых лясных культур, дасьледчых лясных гадавальнікаў.

Ня маючы магчымасьці ў кароткім артыкуле застанавіцца на апісаньні хаця-б галоўнейшых экспонатаў, усё-ж трэба зьвярнуць увагу на тое, што па ўсіх пададдзелах прадстаўлены нашы дасягненьні за апошнія гады, выпаўненьне першых гадоў пяцігодкі. Па ўсіх галінах прадстаўлены пэрспэктывы, за тым найбольш баявыя пытаньні сучаснай работы ў лесе і лясной гаспадарцы БССР.

У прыватнасьці ў пададдзеле лесаўпарадкаваньня прадстаўлена ўпяршыню точная карта лясоў БССР з нанясеньнем усіх лясных дач і з разьмеркаваньнем лясоў па пародам. Тут-жа дасягненьні Наркам-



Сарцімэнты лесараспрацовак.

зему за апошнія месяцы гэта буйныя рэзультаты лясной фотолябораторыі па мэханізацыі і рацыяналізацыі тэй працы, якая затрачвалася на рысаваньне лясных плянаў і карт.

Па лесааднаўленьню асабліва трэба зьвярнуць увагу на калекцыю лесакультурных арудзій, арганізацыю гадавальнікаў, меры лесааднаўленьня ў сувязі з асаблівасьцямі прыроды лесу і глебы.

Па лесаахове прадстаўлен вельмі багаты матар'ял па шкодніцтву ў нашых лясох і аб мерах барацьбы са шкоднікамі. У прыватнасьці трэба зьвярнуць увагу на экспанаты грыбных хвароб, якімі нашы культуры і пітомнік хварэюць за апошнія тры гады амаль ва ўсіх лясьніцтвах БССР (пажаўценьне і ападзеньне хвояў сасны).

Тут-жа на экспанатах коратка апісаны меры барацьбы, які рэкамэндуе наша лясная дасьледчая станцыя.

Па лясной дасьледчай справе прадстаўлена дзейнасьць нашых Навукова-Дасьледчых устаноў і нашы навейшыя дасягненьні, маючая ўжо практычнае значэньне.

Разьмеры разгорнутых работ прадстаўлены па лесамэліарацыі і па лесахэмічнай вытворчасьці. Разьмеры лесакарыстаньня і нашы лясныя прыбыткі прадстаўлены па лесаэксплёатацыі. Вельмі навучальная і вельмі багатая калекцыя сартымэнтаў, прыгатаваных у лясох БССР прадстаўлена па лесанарыхтоўках. З такім поўным наборам сартымэнтаў у натуральную велічыню магчыма азнаёміцца толькі цяпер на нашай выстаўцы.

Значэньне прамысловага паляваньня для БССР добра прадстаўляе пададдзел паляўніцтва.

Група натуральных экспонатаў за краем павільёну паступная: 1) лясны гадавальнік, 2) школа дрэў і кустарнікаў, маючых значэньне для ўмацаваньня і аблясеньня сыпучых пяскоў у БССР, 3) лясныя дэндраты. Тут паказаны ня толькі назвы, але і радзіма расьлін. 4) Вучастак падсочкі сасны. 5) Невялікі зьвярынец з жывых зьвярэй і птушак, якія водзяцца ў лясох БССР. 6) Тыповая палепшаная лясная старожка (дом лясьніка). 7) Тыповая лясная семянасушылка (будзе працаваць у час выстаўкі). 8) Вучастак умацаваных пяскоў. 9) Вучастак лясных культур: сасны, елкі, дуба. 10) Вялікая дэндролёгічная школа Сьляпянскай лясной станцыі.

К тэрыторыі лясного аддзелу прылягае 40 *га* сасновага парку, разьбітага алеямі, дарожкамі, пляцоўкамі і ўжо адкрытага для працоўных. Побач-жа распаложана тэрыторыя ў 120 *га* ўжо засаджанага новага Навукова-дасьледчага дэндролёгічнага парку. У гэтым парку свае лясныя гадавальнікі.

Згодна пастановы СНК будынкі сталага тыпу і вучасткі з натуральнымі экспонатамі па сканчэньню выстаўкі перадаюцца БНДІ імя Леніна. У адпаведнасьці з гэтым лясны павільён і інш. будынкі для аддзелу лясной гаспадаркі выстаўкі пабудаваны ў выглядзе сталых будынкаў. У выкананьне гэтага ўвесь аддзел лясной гаспадаркі паслужыць базай для разгортваньня Сьляпянскай раённай лясной дасьледчай станцыі, якая цяпер ужо працуе побач і ў самой цеснай сувязі з лясным аддзелам выстаўкі.

Толькі вельмі нязначная частка экспанатаў будзе зьвернута ўстановам (інструманты, машыны). З рэшты экспанатаў трэба стварыць лясны музэй. Гэта будзе выключна каштоўная школа для рабочых, працоўнага сялянства і лясных спэцыялістых.

Праф. **С. Мельнік.**

---

**Пераход ад гаспадаркі індывідуальнай да гаспадаркі калектыўнай можа ажыцьцявіцца толькі на аснове саюзу рабочае клясы і беднаты з серадняком, што абавязвае да сыстэматычнага прыцягненьня сераднякоў да калгаснага кіраўніцтва.**

**(З РЭЗАЛЮЦЫІ XVI ЗЬЕЗДУ ЎсеКП(б)).**

# Барацьба з сажаю на збожжы.

Для збожжавых культур савецкіх, калектыўных і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, барацьба з сажаю—зьяўляецца адным з асноўных пытаньняў. Для ліквідаваньня сажы неабходна цэлая сыстэма мерапрыемстваў. Гэты грыбны паразіт зьяўляецца кожны год з пэўным уронам для ўраджаю. У апошнія гады па цэламу шэрагу прычын процант сажы як быццам не зьмяншаецца, ня гледзячы на тое, што пратручваньне насеньня праводзіцца шырэй. Тлумачыць гэта можна тым, што часта пашыраецца заражонае сартавое насеньне і высяваецца яно без належнага пратручваньня (слаба). А здараецца заражэньне здаровага насеньня і з іншых крыніц. Аб гэтых крыніцах заражэньня насеньня і трэба сказаць некалькі слоў.

Калі ў адным годзе быў заражоны сажаю ячмень, авёс ці пшаніца і насеньне перахоўвалася ў засеку сьвірна, дык ва ўсіх шчылінах, у пылу падлогі і наогул у сьмецьці захоўваецца нязьлічаны лік спор сажы. Ніякай мятлою іх ня вымесьці, а трэба засек добра прамыць атрутаю інакш новы ўраджай будзе падзаражоны сажаю.

Найлепшым прыкладам для заражэньня здаровага насеньня сажаю зьяўляецца і сартавальныя машыны на насенна ачышчальным пункце, калі праз іх прапушчаюць рознае па заражонасьці насеньне і не прамываюць час-ад-часу машыну растворам фармаліны. Тое-ж трэба сказаць пра малатарні, сяўнікі, мяшкі куды насыпаюць насеньне. Усе гэтыя машыны і рэчы трэба абавязкова час-ад-часу прамываць растворам фармаліны, каб забіваць прыстаўшыя споры сажы ад партый заражоннага насеньня. Гэта першае, на што трэба зьвярнуць увагу перад абмалотам, ачысткаю насеньня і сяўбою ў гэтым годзе.

Другім пытаньнем будзе пратручваньне насеньня азімай пшаніцы.

Пратручваньне прыдзецца праводзіць толькі супроць сьмярдзючай сажы. Аб пылаватай-жа сажы пшаніцы пры яе амаль штогоднім нязначным пашырэньні і галоўнае нераспрацаванасьці яшчэ тэхнікі праграваньня насеньня ня будзем гутарыць.

Для пратручваньня пшаніцы ў гэтым годзе прыдзецца выкарыстаць усе тыя фунгісіды, якія засталіся ад вясны і завезены летам. Пераважна гэта будуць фармалін, сіні камень, парыская зелень, хромнік калія. Сярод гэтых фунгісідаў два апошнія лічацца сухімі пратравамі. Трэба тут дадаць, што цэлы шэраг досьледаў 1929 г. па Саюзу і невялікія аднагадовыя досьледы 1930 г. нашай станцыі аховы расьлін паказалі, што хромнік калія, як сухі прапарат, стаіць на апошнім месцы (доза 3 *гр.* на кгр. насеньня). Парыская зелень, як і другія мыш'яковістыя прапараты, зьяўляецца актыўным фунгісідам (0,5 *гр.* на 1 клгр. насеньня).

Фармаліну і сіні камень лепш ужываць пры мокрым спосабе пратручваньня. Фармаліны бяруць пры разбаўленьні 1 ч. на 300 ч. вады, а сіні камень у растворы 0,5 проц.

На 100 *гр.* насеньня бяруць 10—12 літр. 0,5 проц. раствору сіняга каменю, добра змачваюць і прыкрываць кучу на 6 гадзін. Далей насеньне сушаць і высяваюць.

Сіні камень некалькі зьніжае ўсходжасьць насеньня, чаму яго лепш замяніць іншымі фунгісідамі, або павялічваць норму высеву на 5—6 проц.

Пры значным заражэньні пшаніцы сажаю неабходна насеньне перш прамыць у вадзе, каб сабраць і выкінуць усе ўсплыўшыя зерні, заразжа пратручваць насеньне фармалінаю па способу змачваньня.

Пратручанае насеньне высеваецца на другі дзень, яно прыгодна толькі для высеву.

Урэшце апошняе пытаньне—папярэджваньне выправаньня азімых ад грыбка „сьнегавай цьвілі“. Вядома, што зараза гэтага грыбка можа перахоўвацца ў глебе або пераносіцца туды з насеньнем. Дрэнна падсушанае насеньне пры сырым надвор'і і часе прыборкі азімых можа ў большай ці меншай ступені быць заражоным. Далей пры ненормальных умовах культура збожжа, як загушчоны травастой, засьмечанасьць поля сарнякамі, занадта глыбокі пасеў, зацямненьне і інш., грыбок і праявіць сябе з большаю сілаю. Адсюль і спосаб папярэджваньня грыбка: на насеньне адбіраюць добра высьпеўшае і ў сухую пагоду прыбранае збожжа, робяць нармальны пасеў. На сырых глебах і прыпадлівых вучастках не даваць застойвацца вадзе, праводзячы яе па схілу баразны.

Наогул-жа правільная культура расьліны ёсьць аснова барацьбы з грыбнымі хваробамі, аснова высокага ўраджаю.

**С. Тупяневіч.**

Нядаўна пабудаваны клюб у калгасе „Рассвет Победитель“.





**Уверсе:** агульны выгляд клюбу.

**Унізе:** унутраны выгляд клюбу.

# Сялянства задаволена мэліярацыяй.

*(Чырвона-Слабодзкі раён, Бабруйскай акругі).*

Каля мястэчка Чырвоная-Слабада, па цячэньні ракі Вызьнянкі, якая ўпадае ў рэчку Морач, на працягу 11 кілёмэтраў цягнецца вялізарнейшае балота, плошчай прыблізна каля 7.000 гект.

Гэтае балота нікім не скарыстоўвалася. На балоце расла толькі няпрыгодная трава, якую позьняю восеньню з вялікімі цяжкасьцямі насельніцтва вакольных вёсак скашвала на падсьціл жывёле.

У мінулым годзе па пастанове Райзьезду Саветаў і АВК былі праведзены мэліорацыйныя работы. Па мэліараваньню гэтага балота пра-



Адна з мясьцін, якіх было шмат на балоце каля Вызны да мэліарацыі.

цавала штодзенна ад 40 да 90 і больш чалавек грабароў. З 31 траўня да кастрычніка праца ўжо была скончана. Даўжыня канавы 8 кілёмэтраў пры шырыні ў 9 мэтраў. Дзякуючы гэтай вялікай працы, усё балота асушана. У сучасны момант русло рэчкі, якое праходзіла зьвілінамі па гэтаму балоту, а таксама і вазёры, уяўляюць высахшыя ўпадзіны, якія пакрыты ракавінамі і маладой травой. Вакольнае сялянства вельмі здаволена мэліарацыяй.

Дзякуючы мэліараваньню з гэтага вялізарнага балота, штогодна будзе атрымліваецца 25 тысяч тон добраякаснага сена, на агульную суму 750 000 руб.

Уся мэліарацыйная праца каштавала 34.000 руб.

**І. Паўлоўскі.**

# За разьвіцьцё нагульных прудоў у калгасах і саўгасах.

Праблема рыбаводзтва ў сучасны момант цесна ўвязана з агульнымі мерапрыемствамі партыі і ўлады па інтэнсыўнаму разьвіцьцю цэлага шэрагу галін, якія-б дапоўнілі недастаючыя мясныя рэзэрвы. Зразумела пагэтаму тое вялікае значэньне і месца, якое аддаецца разьвіцьцю рыбнай справе.

Шляхі разьвіцьця рыбнай справы ў БССР арыентыровачна намечаны пяцігадовым плянам, які прынят усесаюзным аб'яднаньнем „Саюзрыбай“ і які дае ўстаноўку на максымальнае разьвіцьцё штучных вадаёмаў у БССР. Гэты плян прадугледжвае павялічэньне рыбнай прадукцыі на 420 проц. супроць даных 1930 г. Павялічэньне рыбнай прадукцыі па гэтай намётцы павінна пайсьці галоўным чынам за лік павялічэньня прадукцыі прудавой гаспадаркі, плошча якіх арыенты-



Пруд, разбураны белапалякамі ў 1920 г.

ровачна вызначана ў 40—50 тыс. *га*, з якіх 60 проц. дзяржаўных, якія галоўным чынам будуць зьяўляцца пітомнікамі ў 40 проц. прудоў калгасаў і саўгасаў.

Калі ў 1930 годзе прадукцыя прудовай гаспадаркі складае 0,8 проц. у адносінах да агульнай рыбнай прадукцыі БССР, дык у 1933 годзе прадукцыя прудавой гаспадаркі будзе складаць—200 проц.

Для будаўніцтва дзяржаўных прудоў-пітомнікаў бязумоўна патрабуецца ўлажэньне вялікіх сродкаў. Арыентыровачна намечана на працягу пяцігодкі ў 13 мільёнаў руб. (каля 2 тыс. руб. кошт аднаго *га* пітомніка). Акрамя таго патрабуюцца складаныя вышукальныя працы, каб гэтыя пітомнікі па свайму рэльефу і газаваму рэжыму вады падыходзілі-б для будаўніцтва спэцыяльных сыстэм прудоў *нераставых* (дзе праводзіцца апладненьне карпа), *вырасных* (дзе малёк карпа ў працягу лета вырастае ў сёгалетку вагой да 30 грам) *і зімавальнікі* (дзе гэта сёгалетку на працягу зімы засыпае і к вясьне ўжо становіцца гадавіком). Гэты гадавік вясной, прыкладна ў маі-чэрвені м-цы, перасаджваецца ў нагульныя пруды, дзе ён (гадавік карпа) на працягу 5—6 м-цаў вырастае ў таварнага карпа вагой да 700 грам.

Нагульнымі прудамі могуць быць прыстасаваны ўсялякія мелкаводныя вадаёмы (нават невялікія вазёры, балоты), дзе было-б дастаткова расьліннасьці і шмат усялякага роду насякомых, лічынак, якімі харчуецца карп.

Пабудова гэтых нагульных прудоў у калгасах і саўгасах не патрабуе значных затрат, ня больш 200 руб. на *га*. Для гэтага патрабуецца, каб калгасамі навакольныя дробныя вадаёмы былі начыста аблоўлены ад драпежных парод рыб, з тым, каб можна было, атрымліваемай ад пітомнікаў „Белрыбы“ (дзяржаўных прудоў), на падставах контрактацыі пэўнай колькасьцю гадавікоў, іх вясною засадзіць.

Пры экстэнсыўным вядзеньні рыбагаспадаркі, г. зн. без прымяненьня падкорму, на падставе дадзеных прудоў „Чырвонай Зоркі“, Мазырск. акр., якія, на жаль, не зьяўляюцца паказальнымі і то даюць ад 150 да 180 кгр таварнай рыбы, каштоўнасьць малька вылічваецца прыблізна 1 р. 50 к. на *га* (5 кап. штука), амортызацыя таксама прыблізна 1 р. 50 к., абслугоўваньне (1 працаўнік на 100 *га*) 6 руб. і розныя іншыя выдаткі 1 р. на *га*. Валавы прыбытак—за 150 клгр. састаўляе 75 руб. Такім чынам чыстага прыбытку мы маем прыблізна 66 руб. на *га*.

Тут цікава будзе прывесьці дадзеныя „Саюзрыбы“, прынятыя Дзяржпленам СССР аб параўнаньні каштоўнасьці прадукцыі 1 *га* зямлі скарыстоўваемай пад культуры і пад карпавую гаспадарку.

| Назва культуры | Каштоўнасьць 16, 38 клгр. прадукцыі | Каштоўнасьць прадукцыі 1 *га* |
|---|---|---|
| Жыта . . . . . | 0,87 руб. | ад 52,2 да 139,2 руб. |
| Сена лугавое . . . | 0,30 „ | „ 21 „ 45 „ |
| Мяса карпа . . . . | 8 „ | „ 96 „ 320 „ |

Такім чынам выгаднасьць вядзеньня карпавай гаспадаркі відавочна. Маючыйся вопыт эксплёатацыі 80 *га* прудоў у калгасе „Палянка“ Мазырск. акр., які ў гэтым годзе атрымоўвае каля 7.500 руб.—яскрава гаворыць аб тым, што гэту справу неабходна разьвіць.

Тут бязумоўна трэба скарыстаць вопыт Украінскай ССР у гэтым напрамку, калі там з усёй плошчы намячаемай для будаўніцтва прудавых гаспадарак 80 проц. састаўляюць калгасы і толькі 20 проц. дзяржаўныя пруды.

Неабходна, каб органы Наркамзему і „Белрыбы“ і, зразумела органы Паляводсаюзу і Калгасцэнтру— шырока папулярызавалі гэтую справу ў калгасах.

Намечанае пяцігодкай засяленьне рыбай 18 тыс. *га* па прудох калгасаў і саўгасаў павінны і можа быць выпаўнена ў 2 гады. Гэтага патрабуе сучаснае становішча снабжэньня рабочага спажыўца.

**З. Левін.**

# Скашваньне бульбоўніку на сілас—сродак змаганьня з бульбяным грыбком.

Бульбяны грыбок вельмі значна зьнішчае ўраджай бульбы, асабліва ў вільготныя гады. Так, паводле вестак М. С. Уткіна, у губэрніях Цэнтральна-Чарназемнай і Цэнтральна-прамысловай вобласьці, якія найбольш сеюць бульбу, за час зімовага хаваньня, згніло ад заражэньня грыбком да 115 мільёнаў пудоў бульбы. Для ўсяго Савецкага саюзу, па падліках Уткіна, у гэту зіму колькасьць згінуўшай бульбы павінна даць ня менш 300 мільёнаў пудоў. Праф. А. А. Ячэўскі паказвае, што па Савецкаму Саюзу на працягу 27 год бульбяныя раёны мелі страт ад бульбянага грыбка, у сярэднім 45 проц. Асабліва значныя страты былі ў 1894, 1909, 1913, 1919, 1923 і 1925 гадох. У гэты час сустракаліся раёны, дзе бульба згніла да 90 проц. Паводле вестак С. П. Зыбкінай, страты ад бульбянага грыбка 1926 г. для Ніжнягародзкай губ. вылічваюцца ў мільёны руб.

Паводле майго абсьледваньня, у 1928 г. у Бранскай губ., страты ад бульбянага грыбка дасягалі да 50 проц. У 1928 г. аддзелам фітопатолёгіі Горацкай дасьледчай станцыі ўтваралася апырскваньне бульбы бардоскай вадкасьцю супроць бульбянага грыбка. Пры гэтым на апырсканых дзялянках атрымалася павышэньне ўраджаю на 50 проц.

Прыведзеныя вышэй лічбы страт зьяўляюцца досыць адчувальнымі для бюджэту народнае гаспадаркі і абавязваюць нас шукаць спосабаў змаганьня. Адным з спосабаў змаганьня зьяўляецца скашваньне бульбоўніку. Скашваньне заражонага бульбяным грыбком бульбоўніку зьяўляецца мерай папярэджваньня супроць заражэньня клубняў бульбы.

Раіцца гэта мера ўжо даўно, але больш яскравае асьвятленьне атрымала ў апошнія гады ў працах фітопаталёга Морфі, а таксама С. Бурава, які сьцьвярджае палажэньне Морфі. Справа ў тым, што з лісьцяў заражонага бацьвіньня споры бульбянага грыбка ў час ўборкі, калі клубні датыкаюцца да лісьцяў, заражаюць клубні, ад чаго бульба ў месцах яе хаваньня, пры неспрыяючых умовах, гіне. У БССР гіне бульбы за зімовы час, па даных акадэміка Малюшыцкага, у два разы больш, чым яна ідзе на тэхнічную перапрацоўку.

Скашваньне бацьвіньня лепш за ўсё рабіць за 10—14 дзён да ўборкі.

Гэта мера зараз павінна абавязкова праводзіцца, таму што бульбоўнік пойдзе на сілас, якога, па падлікам А. Дзямідовіча, з бульбянага бацьвіньня ў БССР магчыма атрымаць 49 мільёнаў цэнтнераў, што значна дапаможа вырашыць кармовую праблему ў БССР.

Таму высунутае А. Дзямідовічам пытаньне аб скарыстаньні бульбоўніку на сілас, я з фітапатолёгічнага боку, з усёй рашучасьцю падтрымліваю, бо яно прынясе народнай гаспадарцы падвойную эканамічную выгаду: з аднаго боку, мы, вядучы барацьбу з бульбяным грыбком павышаем ураджай бульбы, а з другога—кожны год атрымліваем 49 мільёнаў падвойн. цэнтн. для сіласа бульбянага бацьвіньня.

Шмат ападкаў, якія выпалі ў гэтым годзе, стварыла магчымасьць значнага распаўсюджваньня на бульбе бульбянага грыбка. Таму к уборцы і захаваньню бульбы патрэбна аднесьціся з вялікай увагай. Бо распаўсюджваньне бульбянага грыбка (фітофторы) спрыяе масаваму гніеньню бульбы ў мясцох яе хаваньня. Для засьцярогі ад гэтай

небясьпекі падаем коратка парады па падрыхтоўцы бульбы к хаваньню.

1. Уборка бульбы павінна ўтварацца ў ясную, сухую пагоду—гэта мера памяншае захворваньне бульбы.

2. Пры ўборцы ў сухую пагоду бульбу патрэбна падсушыць на полі, разгарнуўшы нятоўстым пластом. Калі ўборка ўтвараецца ў вільготную пагоду, прасушка робіцца ў пуні, ці пад паветкай.

3. Пасьля прасушкі, бульбу трэба перабраць, выкінуўшы парэзаныя клубні, пабітыя, захварэўшыя, а таксама і маленькія. Для лепшага хаваньня, з розных глеб бульба захоўваецца паасобку. Раньнія сарты лепш захоўваць асобна ад позьніх.

4. У мэтах захаваньня бульбы ад мэханічных пашкоджаньняў, раіцца не хадзіць па бульбе ў ботах, а па дошках, пакладзеных паверх бульбы ці ў валенках.

**Н. Дарожкін.**

(Аддзел Фітапаталёгіі
Цэнтральнай Бульбянай
Станцыі БНДІ).



# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

### Аб рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы.

## Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 30 ліпеня.

У выкананьне пастаноў XVI партзьезду аб рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы ЦК УсеКП(б) пастанаўляе:

1. Усё арганізацыйнае і вытворчае кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам у раёне сканцэнтраваць у адзіным райкалгассаюзе.

2. Усю работу па вытворчым каапэраваньні і абслугоўваньні індывідуальных сялянскіх гаспадарак, а таксама загатоўча-збытавыя і забесьпячальныя функцыі ў адносінах усіх калгасаў, каапэраваных гаспадарак і індывідуальнікаў сканцэнтраваць у адзіным райкалгассаюзе.

У раёнах з надзвычай нізкім працантам калектывізацыі дапускаць у выглядзе часовага выключэньня стварэньне замест райкалгассаюзаў калгасных аўтаномных сэкцый пры райкаапсаюзах, прычым пытаньне гэта вырашаецца ў кожным паасобным выпадку абласнымі арганізацыямі і зацьвярджаецца саюзам саюзаў і калгасцэнтрам.

3. Райкалгассаюз, разьвіваючы спэцыялізацыю калгасаў у адпаведнасьці з асноўным напрамкам сельскае гаспадаркі ў раёнах, ажыцьцяўляе кіраўніцтва і абслугоўваньне аб'яднаных ім калгасаў таксама і па лініі другарадных для данага раёну галін сельска-гаспадарчага вытворства. Якраз таксама райкаапсаюз, побач з абслугоўваньнем прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў па асноўнай галіне сельскае гаспадаркі раёну, кіруе іх дзейнасьцю і ў адносінах усіх другарадных галін сельска-гаспадарчага вытворства. Апарат райкалгассаюзу і райкаапсаюзу павінен быць адпаведна ўкамплектаваны кадрамі, спэцыялістых і мець неабходную гібкасьць, якая забясьпечвае ўсебаковае арганізацыйнае і вытворчае абслугоўваньне сельска-гаспадарчага вытворства данага раёну.

4. Выходзячы з неабходнасьці фарсаваньня разьвіцьця прадукцыйнае жывёлагадоўлі, зьвярнуць асаблівую ўвагу на разгортваньне будаўніцтва райкаапсаюзаў і нізавых вытворчых аб'яднаньняў жывёлагадоўчага напрамку.

5. Скараціць колькасьць спэцыяльных цэнтраў с.-г. каапэрацыі, пакінуўшы ў абласьцях і краёх ня больш 4-х спэцыяльных саюзаў у адпаведнасьці з асноўнымі таварнымі напрамкамі с.-г. вытворства вобласьці і края.

Прызнаць неабходным стварэньне, апрача ўсесаюзнага Хлебацэнтру, таксама ўсесаюзных цэнтраў жывёлагадоўчай каапэрацыі, садова-агароднай, ільна-пяньковай, бавоўнянай і бураковай.

Маючы на ўвазе спэцыфічныя, ускладзеныя на насеннаводную каапэрацыю па пашырэньні вытворства чыстагатункавага насеньня для поўнага забесьпячэньня ім у бліжэйшы час засеўнай плошчы, пакінуць у якасьці паасобна існуючай арганізацыі ўсесаюзны насеннаводны цэнтр і, паводле пастановы Наркамзему Саюзу—у тых абласьцях,—дзе гэта будзе прызнана неабходным,—абласныя саюзы насеннаводнай каапэрацыі, якія апіраюцца ў сваёй рабоце на насеннаводныя калгасы і куставыя таварыствы.

7. Для кіраўніцтва дзейнасьцю райкалгассаюзаў арганізаваць рэспубліканскія і абласныя (краявыя) калгассаюзы.

8. Агульнае кіраўніцтва калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы ажыцьцяўляе саюз саюзаў, які арганізуецца ў складзе: прадстаўнікаў спэцыяльных каапэрацыйных цэнтраў, калгасцэнтру, трактарацэнтру і Саюзкалгасбанку. У рэспубліках, абласьцях і краёх ствараюцца каапэрацыйныя саветы для абмену практыкай і каардынаваньня дзейнасьці розных каапэрацыйных сыстэм.

9. ЦК падкрэсьлівае, што рэарганізацыя калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы можа даць выпікі толькі ў тым выпадку, калі будзе праведзена сапраўднае падмацаваньне калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы адпаведнымі кадрамі як спэцыялістых, так і кіраўнічых партработнікаў. Пры ліквідацыі акруг кадры калгасных і спэцыяльных саюзаў с.-г. каапэрацыі павінны быць перададзены ў адпаведныя райкалгассаюзы і райкаапсаюзы. Калгасныя органы павінны быць умацаваны таксама новымі работнікамі за лік савецкіх гаспадарчых і іншых акруговых арганізацый, якія ліквідуюцца.

Рэарганізацыя калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы павінна прывесьці да рашучага скарачэньня штатаў і рацыяналізацыі ўсёй работы калгасна-каапэрацыйнага апарату. Абавязаць фракцыю саюзу саюзаў, Наркамзем СССР і НК-РСІ СССР забясьпечыць скарачэньне кіраўнічых выдаткаў па ўсёй калгасна-каапэрацыйнай сыстэме зьнізу да верху ня менш,чым на 50 проц. у адносінах да кошту апарату ў даны момант.

Абавязаць партыйныя камітэты не пазьней чым у месячны тэрмін, паведаміць ЦК аб праведзеных імі мерапрыемствах па ўмацаваньні новымі работнікамі калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы.

10. З прычыны таго, што нізавая пасёлкавая сетка каапэрацыйнай сыстэмы надзвычай слабая, расхістана, а мясцамі зусім ліквідавана ЦК абавязвае фракцыі, саюзу саюзаў і цэнтраў с.-г. каапэрацыі, а таксама мясцовыя партарганізацыі ўжыць тэрміновыя, энэргічныя меры да аднаўленьня і ўмацаваньня пасёлкавай каапэрацыйнай сеткі. Уборачная і асеньняя засеўная кампаніі павінны быць усямерна скарыстаны для выкананьня гэтай задачы.

11. У мэтах упарадкаваньня забесьпячэньня сельскае гаспадаркі сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі, запрапанаваць Наркамзему СССР устанавіць наступны парадак сельска-гаспадарчага машыназабесьпячэньня: а) забесьпячэньне сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі саўгасаў і калгасаў у межах, зацьверджаных Наркамземам Саюзу плянаў ажыцьцяўляецца акцыянэрным таварыствам „Сельхозснабжение“ непасрэдна і, як правіла, транзітам (завод сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва—саўгас або калгас); б) забесьпячэньне сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі прасьцейшых каапэрацыйных вытворчых аб'яднаньняў і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а таксама забесьпячэньне калгасаў патрэбным інвэнтаром, ажыцьцяўляецца акцыянэрным таварыствам „Сельхозснабжение“ праз райкаапсаюзы сельска-гаспадарчых каапэрацый паводле іх плянаў; в) манэўраны пункт, запасныя часткі, і сельска-гаспадарчыя машыны—несэзонныя і якія ня могуць быць адпраўлены транзітам завозяцца на міжраённыя склады акцыянэрнага таварыства „Сельхозснабжение“ як для забесьпячэньня саўгасаў і калгасаў, так і раённых саюзаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

12. Рэарганізацыю калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы правесьці не пазьней, чым у месячны тэрмін.

13. З прычыны асобай важнасьці задач, ускладзеных на хлебацэнтр і ўсю яго сыстэму па правядзеньні збожжазагатовак, ЦК абавязвае партарганізацыі ўмацаваць хлебную каапэрацыю і не дапушчаць перакідваньня з сыстэмы Хлебацэнтру, работнікаў да сканчэньня збожжазагатоўчай кампаніі, за выключэньнем часткі спэцыяльных работнікаў вытворчасьці, якія перадаюцца калгаснай сыстэме.

14. Даручыць ЦКК РСІ, Наркамзему СССР і Дзяржбанку ў месячны тэрмін распрацаваць пытаньне аб фінансава-крэдытнай сыстэме ў раёне.

---

## Усім райкалгассаюзам і каапэрацыйным саюзам.

Вынікі першай бальшавіцкай вясновай сяўбы калгасаў, ход уборкі ўраджаю і папярэдняе разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў калгасаў, ужо, з усёй яскравасьцю паказалі, перавагу калектыўнай працы калгасаў у параўнаньні з паасобнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі.

Сотні калектыўных гаспадарак дасягнулі за першы год свайго існаваньня вялізарнейшых посьпехаў. Гэтыя посьпехі пераконваюць бядняцка-серадняцкія масы, яшчэ не ўвайшоўшыя ў калгасы, у пераважнасьці працы калгасаў.

З мэтай высьвятленьня перад шырокімі масамі бядняцка-серадняцкага сялянства першых дасягненьняў бальшавіцкай вясеньняй пасеўнай і ўборачнай кампаній у калгасах БССР, мабілізацыі ўвагі і сіл калгасьнікаў і не калгасьнікаў вакол задач пасьпяховага правядзеньня асеньняй сяўбы, з мэтай устанаўленьня правільных узаемаадносін паміж калгасьнікамі і не калгасьнікамі і далейшага разгортваньня калгаснага руху—неабходна ў пэрыяд з 20-VIII па 10-IX г. г. правесьці кампанію масавай справаздачнасьці калгасаў перад бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі.

Гэтая кампанія павінна праводзіцца пад знакам выкананьня ўсіх чарговых палітычна-гаспадарчых задач партыі на вёсцы, папулярызацыя рашэньняў XVI Зьезду ЎсеКП і XIII зьезду КП(б)Б, выпраўленьня дапушчаных памылак і перагібаў у справе калгаснага будаўніцтва, рэалізацыі пастаноў аб разьвіцьці жывёлагадоўлі, выкананьні калгасамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай у справе задачы хлебу, і інш. таварнай прадукцыі, разьмяшчэньня пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ і г. д.

Для дасягненьня гэтых задач райсаюзы і калгасы павінны:

1. Правесьці да 20 жніўня інструкцыйныя нарады старшынь і рэўкамісій калгасаў дзеля практычнага абгаварэньня пляну правядзеньня справаздачнай кампаніі, а таксама дзеля абгаварэньня пытаньня ўборкі ўраджаю, падрыхтоўкі да асеньняй сяўбы, ходу будаўніцтва ў калгасах, сіласаваньня і г. д.

2. Раённыя саюзы павінны дапамагчы калгасам мабілізаваць усю масу калгасьнікаў правесьці ўборку ўраджаю ў найбольш слабых калгасах.

3. Распрацаваць практычныя мерапрыемствы па аказаньню дапамогі калгасамі індывідуальнаму сэктару машынамі, насеньнем і інш., а таксама мерапрыемствы па ўцягненьню індывідуальных сялян да калектыўнай уборкі і сяўбы.

4. Арганізаваць перад справаздачнымі сходамі абгаварэньне справаздач калгасаў перад калгасьнікамі, шырока разгортваючы самакрытыку і выяўленьні недахопаў у працы калгасаў. Разам з гэтым неабходна як на сходах калгасьнікаў, так і бядняцка-серадняцкіх сходах даваць рашучы адпор кулацтву, якое кожнае слабае месца імкнецца скарыстаць у мэтах зрыву калгаснага руху, жыцьця і працы калгасаў. Пры правядзеньні справаздачных сходаў Праўленьням калгасаў неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб справаздачы былі канкрэтнымі і вычэрпваючымі працу ўсіх асноўных галін калгасаў.

5. Справаздачная кампанія павінна быць скарыстана дзеля далейшага, яшчэ большага, ахопліваючага ўсю калгасную масу разгортваньня сац. спаборніцтва, ударніцтва паміж калгасамі, калгасьнікамі, калгасамі і бядняцка-серадняцкамі гаспадаркамі на лепшае правядзеньне асеньняй сяўбы, уборкі ўраджаю, хлебанарыхтовак і інш.

6. Для кіраўніцтва справаздачнай кампаніяй у раёне неабходна стварыць штаб з прадстаўнікоў усіх раёных арганізацый, які праводзіць інструктаваньне калгасаў і брыгад, рацыянальна разьмяркоўвае маючыяся ў раёне сілы для ўдзелу ў справаздачных сходах, вядзе вучот прарobленай працы і высьвятляе ход кампаніі у друку.

Надаючы вялікае значэньне гэтай справаздачнай кампаніі, Белкалгасцэнтр зьвяртае вашу ўвагу на неабходнасьць мабілізацыі вакол задач практычнага правядзеньня ўсяе савецкае, каапэрацыйнае і прафсаюзнае грамадзкасьці і максымальнага скарыстаньня кампаніі як для ўзмацненьня існуючых калгасаў, так і разгортваньня новай хвалі калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня.

7. Правядзеньне справаздачнай кампаніі, шырокае высьвятленьне ўжо дасягнутых посьпехаў дасьць новы прыліў бядняцка-сераданяцкіх мас у калгасы, сотні новых калгасаў, якія з ужо існуючымі ўступяць у правядзеньні асеньняй сяўбы.

Шырокае высьвятленьне посьпехаў калгаснай працы зьявіцца магутным ударам па кулацтву, па іх дзейнасьці супроць калгасаў і калгаснага руху.

8. Раённыя саюзы павінны арганізаваць сваячасовую і поўную інфармацыю аб ходзе кампаніі праз друк і непасрэдна ў Калгасцэнтры.

Падрабязныя вынікі правядзеньня па раёнам справаздачнай кампаніі калгасаў, павінны быць дасланы ў Белкалгасцэнтр да 15-IX—30 г.

Старшыня Белкалгасцэнтру **Міцькоў.**

---

**Рэдактар—Рэдкалегія.**









Менск, друк. БДВ. Зак. № 2276. 12.000. (3 арк.) Галоўлітбел № 2689.